

«Купалінка» ➔5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Фэст у Дубінах ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3301) Год LXIV Беласток, 18 жніўня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Падляшскія зубраняты ў «Зубронку» (ч.3)

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



**З 25 ліпеня па 3 жніўня дзеці з Польшчы, якія вывучаюць беларускую мову, знаёміліся з культурай і традыцыямі Беларусі. У рамках летніка нашы вучні пабывалі ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Зубраня», а таксама наведалі Менск, Нясвіж, Мір, Залессе ды Мядзел. Апрача таго рассмакаваліся ў беларускай кухні, а таксама пасябравалі з аднагодкамі з Беларусі. На Падляшша прывезлі з сабою поўныя заплечнікі сувеніраў, цукерак ды ўсялякіх ласункаў. Ёсць што расказаць, многа здарылася, удзельнікі паездкі вярнуліся шчаслівымі, з новымі сяброўствамі, успамінамі і ўражаннямі. Яшчэ ў зваротным цягніку Гародня- Беласток абяцалі сабе, што ў Беларусь напэўна яшчэ не раз вернуцца.**

Усе ўдзельнікі летніка вельмі стомленыя, але шчаслівыя вярнуліся дамоў. Гэта былі дзевяць дзён уражанняў, падарожжаў, прыгод і пачатку новых сяброўскіх сувязей. Вучні выкарысталі ўсе сто працэнтаў часу праведзенага ў Беларусі. Не было нуды ці ляноты, а таксама часу на бессэнсоўныя гульні ў тэлефоне.

Апошнім этапам летніка была экскурсія па замках Беларусі. Пабыўка ў замках у Нясвіжы і Міры выклікала настолькі большую цікавасць да беларускай гісторыі, што некаторыя абяцалі сабе больш дачытаць пра падзеі і славутыя беларускія роды.

— У гэтых мясцінах я была ўпершыню. Мяне ўразілі замкі, — сказала Вікторыя. — Пра Нясвіжскі замак недзе я чытала. І гэта было для мяне цудоўна, што я зараз тут. Мне спадабаўся адзін пакой з вялікай сіняй шафай і ложкам. Хацелася б у такім пакоі крыху пажыць. Трэба шукаць нейкага князя на белым кані (*смех*).

Нясвіж мы наведалі днём, таму не сустрэлі «Чорнай дамы». І гэта добра, бо як адзначыў наш экскурсавод, пабачыць яе — вялікае няшчасце. Нясвіжскі замак занесены ў спісак спадчыны ЮНЕСКА. Гаворыцца, што калі ты не быў у Нясвіжы, то не пабачыў Беларусі. Больш чым дзвесце тысяч турыстаў наведвае гэты маленькі горад кожны год. Ён вельмі папулярны з-за таго, што Радзівілы зрабілі Нясвіж сваёй рэзідэнцыяй. Сёння ў замкавых пакоях знаходзіцца музей, які толькі напамінае ранейшую калекцыю Радзівілаў, але і так уражвае. Раней у замку змяшчалася, між іншым, вялікая калекцыя слуцкіх паясоў, аднак сёння мы можам назіраць толькі яе невялічкія фрагменты. Таксама тут ёсць спецыяльны пакой, у якім змяшчаецца зброя, што вельмі зацікавіла менавіта хлопцаў. Так мы ішлі з пакоя ў пакой, ад адной выстаўкі да другой, а дзеці былі ў захапленні. Сапраўды былі зачараваныя.

— Мне вельмі спадабалася экскурсія. Вельмі цікава. Я даведаўся шмат цікавых рэчаў пра Мірскі замак, пра замак у Нясвіжы, — сказаў Міхал Вардэцкі з бельскай «тройкі». — Цікавая калекцыя зброі, але таксама мяне зацікавіла выстаўка дыяментаў.



■ Настаўніцы з Падляшша

— Мне найбольш спадабаліся партрэты продкаў Радзівілаў. Але я не хацеў бы жыць у замку, — сказаў Мікалай Троц. — Мне лепш жыць у хаце. Бо быць князем, або нейкай знатнай асобай, мне здаецца, цяжка. Гэта вялікая адказнасць прымаць рашэнні, якія вырашаюць лёс дзяржавы.

— Думаю, што часам ім было цяжка. Але пакольні яны мелі вельмі сучасныя замкі, жылося ім як у казцы, — падвяла Паўліна Ёдла з бельскай «тройкі». — Мы зараз можам аб гэтым толькі марыць.

Мірскі замак, хаця на думку вучняў бяднейшы, быў абвешчаны адным брытанскім часопісам самым прыгожым замкам Еўропы. Дзвюх гадзін экскурсіі па кожным замку дастаткова, каб убачыць кавалак замка, паслухаць цікавыя гісторыі, адчуць кіламетры калідораў і сотні ступеняў мармуровай і драўлянай лесвіцы. А ўлічваючы, што фотаздымкі Міра і Нясвіжа і іх інтэр'ераў, можна знайсці ў падручніках па гісторыі і беларускай мове, я думаю, што туды варта забраць дзяцей, каб пазней на занятках маглі ганарліва сказаць: «Я тут быў!»

### ПАДАРОЖЖА ЛІЧАНАЕ Ў НОВЫХ СЯБРОЎСТВАХ

Паездка жыцця, экскурсія мараў, нечаканы маршрут... Можна было б напісаць яшчэ некалькі падобных фраз, але проста варта сказаць, што школьнікі скарачаюць яе апісанне да двух слоў — незабыўная і непаўторная. Самае галоўнае — новыя ўражанні: дзясятак новых месцаў, дзясяткі новых людзей, некалькі сотень новых успамінаў. Гэта тое, што застанецца назаўсёды.

— Я б хацела вярнуцца ў Беларусь, таму што гэта вельмі прыгожая краіна, і я хацела б наведаць іншыя гарады і мясціны, — сказала Юлька Грэсь з Залук. — Цікава было паразмаўляць з беларусамі, але таксама я была здзіўлена адкрытасцю і энергіяй моладзі з Японіі. Упершыню мела магчымасць пазнаць бліжэй іхнюю культуру.

Але не толькі дзеля сувязей вучням хочацца яшчэ адведаць Беларусь.

— Напэўна яшчэ туды паеду, — адзначыў Тымон Намотка з «тройкі». — Я быў зачараваны смакам беларускай кухні. Там неверагодна смачная ежа і прыгожыя дзяўчаты.

На вуліцах Менска вучні часта гаварылі адзін да другога: «О, глянь! Гэта не Руды з Гайнаўкі?» Наша моладзь дайшла да высновы, што хаця гэта далёка, тут сустракаюцца свае твары.

— Я вярнуся ў Беларусь. Было вельмі файна ў Менску. Мне вельмі падабаецца горад, — сказаў Пятро Міранчук з Орлі. — Мне вельмі спадабалася бібліятэка, яна высокая, са шкла, мы з яе даху змаглі пабачыць увесь Менск. Вельмі сучасны, большы за Варшаву.

Але не толькі ўражаннямі ад архітэктуры і прыгожых дзяўчат жыве чалавек.

— Такіх цукерак і жвачак нідзе не купіш, — далучыўся да расказаў пра ежу Бартэк Яканюк з «тройкі». — Толькі ў Беларусі можна знайсці такі выбар смакаў. Мне таксама спадабалася супраца з кітайцамі і беларусамі. Я хачу ў наступным годзе яшчэ туды паехаць.

Хацелася б марыць, каб кожны, хто вывучае беларускую мову, змог апынуцца ў такіх мясцінах. Застаецца верыць, што гэтая паездка станоўча паўплывае на вучняў і іх вынікі працы як на занятках, так і на беларускай ніве.

У летніку прыняло ўдзел 36 дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову на Падляшшы. Гэты былі вучні бельскай «тройкі», школ у Гайнаўцы, Орлі, Залуках і Бабіках. З вучнямі цягам усяго адпачынку былі разам і настаўніцы, Беата Кендысь і Анна Франкоўская. Арганізатарам летніка быў Культурны цэнтр Рэспублікі Беларусь у Польшчы.



# Наша пакаленне



Пашчасціла мне зусім нядаўна сустракацца з універсітэцкімі аднакурснікамі. Не часта выпадаюць такія спатканні, ад таго і прыемнасць убачыцца з людзьмі, якіх вельмі даўно не бачыў, успомніць юнацтва, студэнцкі час і розныя прыгоды. У такіх сустрэч асаблівы характар — заўсёды знойдзецца месца і сяброўскаму застоллю, і ўспамінам, і шматлікім жартам, але і суму таксама. На сустрэчу праз трыццаць гадоў сабралася амаль два дзясяткі чалавек. Магло б і больш, аднак...З 24 хлопцаў, якія вучыліся на нашым першым курсе, ажно дзевяці ўжо няма на гэтым свеце. Большыня з іх не дажылі нават да 45 гадоў. Сумная статыстыка. Страты нібы ў ваенны час. Сур'ёзныя хваробы, жыццёвыя нягоды, алкагольная залежнасць — усе гэтыя фактары моцна скарацілі жыццё нашых аднакурснікаў.

Кожнае пакаленне прыходзіць у гэты свет з новымі надзеямі, вялікімі планамі, а завяршае свой жыццёвы шлях непазбежным урэшце расчараваннем. Нашаму пакаленню ў значнай ступені пашанцавала — мы заспелі канец Савецкага Саюза, наша вучоба прыпала якраз на час гарбачоўскай перабудовы. Час быў цудоўны не толькі тым, што мы былі маладыя, здаровыя і наіўна аптымістычна настроеныя. Ён быў захапляльны тым, што выплывала гістарычная праўда, ішла плынь праўдзівай інфармацыі, адкрываліся сапраўдныя старонкі нацыянальнай мінуўшчыны. Хацелася жыць і тварыць новую гісторыю. Эпоха перамен не была лёгкай, але лагічна завяршылася абвяшчэннем суверэнітэту Беларусі. Пачатак дзевяностых быў сапраўдным выпрабаваннем на трываласць, паколькі людзі апынуліся ў прынцыпова новай рэчаіснасці. Калі з аднаго боку з'явілася свабода, якой продкі не мелі стагоддзямі, з іншага — зніклі ўсе сацыяльныя гарантыі і ранейшыя правілы існавання ў дзяржаве. Спакваля, аднак, усе пачалі знаходзіць сваё месца ў жыцці, многія з выпускнікоў нашага купалаўскага ўніверсітэта працавалі па спецыяльнасці, сталі педагогамі альбо навукоўцамі.

Ну а потым, у змрочна паваротным 1994 годзе два старэйшыя пакаленні выбралі дарогу „назад у СССР". На наша ж пакаленне выпала місія вярнуць краіну на рэйкі нармальнага развіцця. А значыць дамагчыся хуткай змены палітычнай улады. Многія працягвалі верыць, што зноў „загляне сонца і ў наша ваконца". Але час ішоў, а неабальшавіцкая ўлада толькі працягвала ўмацоўвацца, знішчаючы ўсе парасткі і саджанцы нацыянальнага адраджэння, якое не паспела набраць моцы, увайсці ў сілу. Шэсць-сем гадоў папярэдняй асветніцкай працы былі перакрэслены новай хваляй „зацiскання шрубаў" і паслядоўнай русіфікацыі. Мэтанакіравана знішчалася беларуская сістэма адукацыі, з навучальных устаноў выпіхваліся і звальняліся лепшыя выкладчыкі, якіх паступова замянялі пасрэдныя альбо выразна нікчэмныя „кадры" з гнуткімі хрыбтамі і насамі „па ветры". Так „маўчальнікі выйшлі ў начальнікі", так зніклі беларускамоўныя школы і пачаткі беларускамоўнай адукацыі ў вышэйшых навучальных установах. Так усё запаланіла шэрасць. Не хацеў бы я вучыцца ў сённяшнім гарадзенскім універсітэце, істотна змянілася наша alma-mater.

Праз дваццаць гадоў стала ясна, што ілбом муру не праб'еш. Улада выбудавала жорсткую маналітную „вертыкаль" і паслядоўна душыць кожную, нават дробную, праяву іншадумства. Пра нейкія пратэсты і казаць лішне — тут адразу задзейнічаны ўсе сілавыя структуры. Асветніцкая праца грамадскіх арганізацый захлынулася ў хвалях рэпрэсій і дыскрымінацыі. Наша пакаленне прайграе (ці ўжо безнадзейна прайграла) не толькі сённяшні дзень, але і заўтрашні. Тысячы маладых грамадзян Беларусі штогод пакідаюць родную краіну і выязджаюць на Захад. Сярод маіх знаёмых я не ведаю аніводнай сям'і, з якой ніхто не выехаў на вучобу ці працу за мяжу. Нават пры нейкіх пазітыўных зменах тут назад вернецца мізэрны адсотак. „У гэтай краіне не маю я дому", — як пісаў паэт.

Паводле канонаў жанру патрэбна было б скончыць гэтыя нататкі нечым аптымістычным. Альбо наадварот, безнадзейным. Бо „як прадказана святымі, усё вісіць на валаску". А можна проста паставіць шматкроп'е. Жыццё кароткае, надзея вечная...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Марозіва для асвяжэння

Добрая навіна: палякі ўсё больш любяць беларусаў. Гэта вынік нядаўняга апытання «Стаўленне да іншых народаў», праведзенага CBOS — Цэнтрам даследавання грамадскай думкі. Не вядома толькі, каго ўсё больш любяць палякі — беларусаў-падляшукоў, у значнай ступені паланізаваных, хаця культывуючых уласную мову і культуру, альбо тых, што з самой Беларусі, у большасці русіфікаваных, стэрылізаваных з нацыянальнай ідэнтычнасці антыбеларускай прапагандай рэжыму Лукашэнкі і палітычнай і культурнай інфільтрацыяй расейшчыны. Або ці любяць беларусаў «маладых», былых у свеце і адукаваных не горш, чым сучасныя палякі ці немцы, ці «старых», муміфікаваных склератычным наратывам усходніх сентыменталістаў да постаці прыдуркаватага кацапа ў лыкавых лапцях? Бо палякі наогул не ведаюць беларусаў. І гэта дрэнная вестка. Іх веды пра іх грунтуюцца на тэлевізійных стэрэатыпах, таблоіднай псеўдапубліцыстыцы альбо паявярхоўных назіраннях у час выпадковых гасцяванняў землякоў у Беларусі. Слова «выпадак» тут істотнае. Знаёмства з Беларуссю для большасці палякаў выпадковае, таму непаслядоўнае і ненадзейнае. Крыўдна казаць, але нават польскія падручнікі па гісторыі згадваюць аб Беларусі ўсяго ў некалькіх сказах.

Відавочна, што для палякаў гісторыя Польшчы самая важная, а для беларусаў — гісторыя Беларусі. Толькі тое, што фармуе гістарычную свядомасць палякаў, здаецца быць занадта мегаламанскім. Такая «зручная» гісторыя, якую выкладаюць у расійскіх ці брытанскіх школах, аднолькава мегаламанская. Уся справа ў тым, каб не засяроджвацца на ўласным «гістарычным пупку». Без спасылкі на культурны і цывілізацыйны кантэкст, на агульную гістарычную вось суседніх народаў, без крытычнага погляду на мінулае, нельга зразумець сваю ідэнтычнасць і яе ролю ў фарміраванні будучыні нацыі. На жаль, самасвядомасць палякаў усё больш закарузлая. Іншымі словамі, усё выраджаецца. Гуманістычныя каштоўнасці, якія кіруюць гістарычнай рэфлексіяй, нават на ўзроўні сярэдняй школы, атрафіруюцца, малеюць да формы прымітыўнага нацыяналізму, агістарычнага легендарства, альбо разгромленых паўстанняў і нацыянальных зрываў, альбо скамянелых ад часу сімвалаў. Замест таго, каб разважаць пра патрыятызм, яго функцыі ў сацыялогіі дзяржавы, замест таго, каб задумацца над палітычным станам нацыі, грамадства спажывае лозунгі без зместу, умела падкладзеныя ім пад рот прафесійнымі цынікамі. «Паляк-католік», «Польшча стаіць на вугалі», «Польшча — аплот хрысціянства»... Яны паравраваюцца доўга і лянiва. Хопіць трымацца ў бяздумнасці. Такая нацыянальная пустэча адкрывае шырокае поле для рознага кшталту ідэолагаў і палітычных самазванцаў. Аднак лёгкасць, з якой яны маніпулююць эмоцыямі большасці палякаў, не здзіўляе, улічваючы той факт, што яны адмовіліся ад сваёй грамадскай місіі, звязанай з сумеснай адказнасцю за дзяржаву, задавальняючы сябе попытам на «хлеб і гульні». Пасля перанасычэння сімпатыя мас кардынальна змяняецца. Гэта так як з ванільным марозівам, якога зашмат. Любім мы беларусаў сёння, а заўтра?

А ці беларусы любяць палякаў? Улічваючы тое, што многія з іх у цяперашні час часова жывуць у Польшчы, працуюць тут, часта нелегальна, і, магчыма, сустракаюцца кожны дзень калі не з дыскрымінацыяй, то, безумоўна, з польскай мегаламаніяй альбо з ксенафобскай пагардай да кожнага незнаёмца, дык невядома, ці пасля вяртання ў сваю краіну меркаванне не будзе недаацэньваць пазіцыю палякаў у беларускім рэйтынгу сімпатыі да іншых народаў.

Адкрыццё CBOS пра тое, што палякі ўсё больш любяць беларусаў, — як я ўжо казаў, — добрая навіна. Гэтак жа добрая, як тая, што палякі любяць марозіва. Сёння, скажам, хутчэй ванільнае. Заўтра можа толькі малінавае. Яшчэ адна навіна, якая ўжо вельмі дрэнная, — гэта тое, што палякі ўсё менш любяць украінцаў. Некалькі гадоў таму яны падабаліся ім значна больш. Гэта радыкальная змена сімпатыі закранула таксама немцаў і французаў. У цяперашні час іх палякі любяць менш, чым некалькі гадоў таму. Але цяпер ім больш падабаюцца расіяне. А паколькі расіянінам з'яўляецца Уладзімір Пуцін, обер-махляр і цынік сярод палітыкаў, на яго таксама сплыло захапленне. Я прызнаюся, што гэта даволі супярэчлівая сімпатыя — калі хтосьці не зразумее, што ён любіць дынаміт з запаленым кнотам. Але зразумее, калі знойдзе гэты дынаміт пад сваім седалам. Хай гэта не будзе запозна.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Усе ў Высокае

Да добрага хутка прывыкаеш. Такія думкі натуральным чынам лезуць у галаву, калі ў апошнім часе прыйшлося мне перасякаць мяжу праз пагранічны пераход Полаўцы — Пяшчатка, што ў Чаромхаўскай гміне. Змадэрнізаваны ў апошніх гадах пераход на фоне іншых пагранпераходаў у Кузніцы ці Баброўніках здаецца вельмі ўтульным і спакойным. Зразумела, гэта толькі першыя ўражанні. Бо, як здаўна вядома, на мяжы нічога невядома, апрача аднаго, што ты там становішся пакорлівым і паслухмяным прасіцелем у адносінах да ўсіх службоўцаў, якіх сустракаеш на сваёй дарозе. Таму пры добрым шанцаванні можна абярнуць у два бакі з Гайнаўкі ў Высокае і назад праз тры-чатыры гадзіны, але і звычайна засесці ў чаканні і на дзесяць гадзін, бо, напрыклад, павесіўся інтэрнэт. А без адсочвання і быцця ў сеціве чалавеку прота зараз не прасунуцца праз мяжу. Таму час чакання можна сабе аблегчаць размовамі ўсіх з усімі. Аднак тыя, хто мае свабодны цэлы дзень, патрапіць так звесці гадзіны перасякання мяжы, што з вялікім праўдападабенствам можа табе здавацца, што ты проста паехаў наведаць сваіх знаёмых і, не занадта спяшаючыся, атрымаў яшчэ задавальненне ад зробленых пры нагодзе пакупак.

Але давайце па чарзе і без чэргаў. Самай вялікай пакуль перавагай перахода ў Полаўцах з'яўляецца адсутнасць аўтафураў. Аграмадныя грузавыя машыны і даўжэзныя іх чэргі — неад'емнае відовішча на ўсіх прапускных пунктах на ўсходняй мяжы Польшчы, Літвы і Украіны. А тут толькі легкавушкі. Аднак што і раз з'яўляюцца чуткі быццам мадэрнізаваная дарога з Бельска аж да самой мяжы мае пацягнуць сюды за сабой рух аўтафураў. А гэтага тут ніхто не хоча, бо дагэтуль на гэтым пагранпераходзе свае людзі і парадкі. Аніякія тут кантрабандысты, але законапаслухмяныя грамадзяне, у тым ліку і паважаныя ўсімі мясцовыя свецкія людзі, духоўныя, самаўрадавыя эліты паўднёвай часткі нашага ваяводства. Менавіта, як гавораць некаторыя наглядальнікі мяжы, мясцовыя палітыкі, калі хочуць атрымаць перамогу, усе пагалоўна абяцаюць, што пасля выбараў сваім памагатым дапамогуць у афармленні бясплатных гадавых віз. Беларуская віза ў пашпарце з'яўляецца гарантам поспеху ў мясцовай самаўрадавай палітыцы. Ці ж не знак часу? Уласнік такой візы адразу павышае сваю прэстыжнасць і становіцца аб'ектам зайздрасці з боку тых, хто не мае такой пячаткі ў сваім пашпарце.

Жыхарам Гайнаўскага, Бельскага і Сямятыцкага паветаў пагранпераход у Полаўцах з'яўляецца пашытым па іх патрабаванні і ўяўленні акном на свет беларускай рэчаіснасці. Бо ж адразу на іх дарозе першым горадам, які іх сустракае, гэта не веліканы кшталту Гародні, Берасця ці хаця Ваўкавыска, але правінцыйнае, крыху санлівае Высокае. Для жыхароў Гайнаўшчыны, Бельшчыны ці Сямятычыны пабыўка ў гэтым гарадку дае ім магчымасць адчування сябе як у сваёй роднай эканамічнаэстэтычнай прасторы. Перасекшы мяжу, ты паводзіш сябе руцінным чынам, так як штодзень едзеш займацца сваім справамі ў суседняе мястэчка, дзе можна танней набыць тавары для неабходнага карыстання. Ну і яшчэ тут адзін важны псіхалагічны момант у такіх паездках. Ты прыязджаеш у Высокае яшчэ з большай метраполіі. Для нашага, беларускага селяніна адчуванне сваёй важнасці ў якасці гараджаніна з'явілася ці ж не адным з важнейшых элементаў цывілізацыйнага росту і годнасці чалавека поспеху.

Тут не трэба баяцца тысяч машын як на вуліцах абласных ці ваяводскіх гарадоў. Добра ведаю многіх гайнавян і бельшчан, якія, прыехаўшы ў Беласток, на Дайлідах, прадмесці горада, ставілі свае машыны, каб далей займацца сваімі справамі на гарадскім транспарце. Правілы дарожнага руху і сетку танных крам распрацуеш тут ужо праз дзве паездкі. Пачынаеш тады адчуваць і паводзіць сябе больш упэўнена. Бо ж ты прыехаў пакінуць тут свае цяжка зробленыя грошы. А іх аж не так і многа ў прыпушчанскім свеце. Шкада толькі, што першымі словамі, якія прыходзіцца заўсёды слухаць на мяжы ад беларускіх памежнікаў і мытнікаў, з'яўляецца магутнае «здравствуйте» замест «добры дзень». І тое ж самае ў Высокім. Дзе ж тая Беларусь? — пытаюцца некаторыя ў сваіх думках. Абы хутчэй атаварыцца і да наступнай паездкі ў таннейшыя месцы Высокага.

**Яўген ВАПА**

# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні (6)



Калі ў жніўні 1999 года я ўпершыню пабывала ў манастыры, Алег Бембель ужо тры гады служыў паслушнікам. На жаль, тады не пашанцавала нам сустрэцца. У духу я абяцала вярнуцца ў гэтае месца ды адшукаць паэта-дысідэнта.

Філосаф, пісьменнік Алег Бембель — герой майго пакалення. Ён аўтар культавай кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», выдадзенай у Лондане ў 1985 годзе. Спачатку кніга кружыла па руках у лістках, перапісаных на машынцы. Яе змест — пра значэнне і месца беларускай мовы ў БССР. На старонках кнігі прагучаў голас творчай інтэлігенцыі і звычайных грамадзян, заклапочаных дыскрымінацыяй і зніканнем роднай мовы. У прынцыпе ўсе пра гэта ведалі, гаварылі на кухні, у давераным крузе. Аднак кніжнае выданне, да таго на варожым Захадзе, было ўспрынята як здрада і антысавецкая дзейнасць. Кніжка выклікала сапраўдны землятрус у савецкай Беларусі. Сам аўтар быў выкінуты з кампартыі, звольнены з Інстытута філасофіі Акадэміі навук БСРР ды прысуджаны на грамадскае небыццё. Пераслед і цкаванне доўжыліся гадамі ажно давялі да смяротэльнай хваробы.

— І я прыехаў паміраць у Жыровічы, — сёння, без жалю, успамінае манах Іаан. І пасля красамоўнай паўзы дадае: — Аднак Гасподзь захаваў мяне. Ужо трэці дзясятак ступаю па святой Жыровіцкай зямельцы. Знайшоў тут сэнс і месца для жыцця.

Манах Іаан гэта той жа філосаф, выпускнік кансерваторыі і пісьменнік-дысідэнт Алег Бембель, герой майго пакалення, аўтар той жа культавай кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс». Сёння яго ведаюць як паэта, які падпісвае свае вершы псеўданімам «Зніч». Ён заснавальнік літаратурна-мастацкага аб'яднання «Крэсія», якое дзейнічае пры манастыры, выпускае інфармацыйны бюлетэнь «Жыровіцкая Абіцель», ладзіць культурныя мерапрыемствы ў пасёлку ды нясе духовую дапамогу і суцяшэнне беларускім творцам.

* * *

На сустрэчу мы дамовіліся ў альтанцы ля Свята-Успенскай царквы. Перад гэтым я наведала магілы жыровіцкіх старцаў Ераміна і Мітрафана, якія знаходзяцца на ўзгорку каля Уздзвіжанскай царквы. Сціплыя, ледзь прыкметныя магілы, ахінуты німбам святасці. Да іх паломнічаюць людзі з усёй Беларусі ды з замежжа. Як мяркуе манах Іаан, яго шлях да выратавання пачаўся якраз з гэтага месца.

Калі схапіла хвароба, у Менску не давалі ўжо надзеі. Дыягназ пастаўлены лекарамі — язва дванаццаціперснай кішкі, значыў адно, што зямная медыцына ўжо не дапаможа. Але хто хоча паміраць у 57 гадоў? Добрыя людзі суцяшалі, раілі шукаць дапамогі ў царкве. Знаёмы выкладчык семінарыі і сябра параіў з'ездзіць у Жыровічы, памаліцца на магілцы старца Ераміна. Яшчэ пры жыцці старац праславіўся многімі цудамі. Перад смерцю ён сказаў: *Прыходзьце на магілу, прасіце, буду дапамагаць.*

Алег Бембель неяк апошнімі сіламі дабраўся ў Жыровічы, адшукаў магілку, укленчыў і папрасіў. Яшчэ ў той дзень нейкая сіла паспрыяла сустрэць яму старца Мітрафана, былога кельніка старца Ераміна. Маўклівы манах толькі паглядзеў і сказаў: *Трымайся манастыра! Ты па натуры манах, які час ад часу ўпадаў у цяжкія спакусы.*

Словы пацэлілі ў самае сэрца.

— І такім чынам у манастыры паболела на аднаго грэшнага паэта, — падводзіць гутарку са светлым гумарам мой суразмоўца.

Спачатку прыгарнулі яго як паломніка, потым стаў «труднікам», жыў пры манастыры і адпрацоўваў послухі. Калі чэсна праявіў сябе ў ролі «трудніка» і выказаў волю астацца за мурам, стаў кандыдатам у паслушнікі. Быць паслушнікам — надзейная справа! Толькі тады ўвайшоў у «брацію», атрымаў падраснік, скуфейку.



Манах Іаан і паэт Зніч



Камень на якім у 1520 г. зявілася Божая Маці

Гэты самы цяжкі этап, час выпрабавання, цягнуўся ажно пяць гадоў. Толькі ў 2001 годзе майго субяседніка пастрыглі ў інакі. Згодна са звычаем памяняўся і нябесны заступнік дадзены пры хрышчэнні. З гэтага часу паэт Зніч стаў інакам Мікалаем.

* * *

З паэтам Знічам, героем майго пакалення, я пазнаёмілася толькі зімой 2007 года, калі па службовых справах пабывала ў Белавежскай пушчы і была магчымасць паехаць у манастыр. Сустрэчу папярэдзіла дзіўнае здарэнне. Дзяжурны, які пільнаваў уваход на тэрыторыю манастыра, дужа ажывіўся, пачуўшы маю беларускую мову.

— Я, *віджу*, вы беларускамоўны чалавек, — пачаў ён, — вам трэба прачытаць адну кнігу!

Затым дзядзька вынес кніжку і прапанаваў мне «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс».

І што тут казаць, ад уражання я замоўкла і засмяялася ў душы. Вось, хтось чытае мае думкі і ўсё арганізуе за мяне.

Дзядзька не толькі прапанаваў кнігу:

*— Вам надо сустрэцца з автором, іноком Міколаем!* — сказаў.

Усё гэта ўзрушыла мяне і прыгадала студэнцкія гады, калі я сама распаўсюджвала гэтую кніжку сярод сяброў і студэнцкай моладзі. На той час яна была забаронена ў Польшчы ды «кніганошная» місія мела прысмак канспірацыі. І вось нехта памятаў пра гэта ў святым месцы... Значыць — нішто не забыта!

У той час паэт Зніч быў ужо інакам Мікалаем. Яго ўвага кружыла вакол новага тома «За мурам». Я сама першы раз у жыцці пасялілася ў манастыры і назірала яго строгі рэжым. Самым вялікім подзвігам стаў удзел у ранішняй літургіі. Багаслужба пачыналася ў пяць гадзін раніцы (па польскім часе), пры начным, марозным небе, засеяным зоркамі...

«Для свецкага чалавека манастырскае жыццё явіцца нечым як дабравольнае адрачэнне ад свабоды», — чытаем у лістку «Жыровіцкая Абіцель». Папраўдзе яно так і ёсць. Дзень пачынаецца ў 5:30. З шостай па восьмую гадзіну служыцца ютрань, пасля ў 8:30 — сняданак. Ад дзевяці гадзін да пятай пасля абеду выконваюць паслушанні (гэта поўны працоўны дзень з перапынкам на абед). Тады кожны выконвае, згодна з бласлаўленнем, індывідуальныя працы. Тут парадак як у войску, нельга каментаваць, а толькі выконваць загады. Ад 18 да 22 гадзіны — малая і вялікая вячэрня. Пасля гэтага вячэра і хрэсны ход вакол цэнтральнай часці манастыра. І ўрэшце ў 23:00 — «отбой».

І так кожны дзень, апрача нядзелькі і святаў, якія поўнасцю прысвечаны багаслужбам, індывідуальнай малітве і чытанню духоўнай літаратуры...

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

# Гурт «АС» — гісторыя аўтарскіх песень

***У рэпертуары гурта «Ас» сярод папулярных беларускіх народных песень ёсць многа аўтарскіх, для якіх тэксты і музыку напісаў Славамір Трафімюк. Пра акалічнасці іх паўстання з аўтарам гутарыць Юрка Буйнюк.***

**Юрка Буйнюк: — Сярод Вашых песень многа аўтарскіх твораў. Асабліва ў другім альбоме «Едуць гарадскія» большасць складаюць аўтарскія песні. Калі берацe нейкую песню з Усходу, заўсёды на кампакт-дыску пішацe, хто аўтар слоў і музыкі. Гэта мне вельмі падабаецца. Якія песні публіка найлепш успрымае — аўтарскія, народныя ці каверы?**

**Славамір Трафімюк:** — Публіка мае ў памяці, у генах мелодыі. Напрыклад «Залатое калечка» спявае Віктар Каралёў, але аўтар музыкі не ён. А, напрыклад, больш вядомую песню «Лёс» напісаў Уладзімір Касцюк для Надзежды Кадышавай. Некаторыя гавораць, што песня «Вінавата» — Кадышавай, а гэта ж народная песня. Я сам не ведаў, што песня «Конфетки-бананачки» гэта песня савецкая, а мелодыя напісана ў 1905 годзе. Пры песнях, якія мы выконваем як каверы, пішам хто аўтар — Кадышава ці Каралёў. Многія песні жывуць у нашым народзе, але цяжка прыпісаць да іх аўтара. Напрыклад, усе думаюць, што вядомая ўкраінская песня «Распрагайце хлопцы коней» народная песня, а гэта аўтарская песня — словы і музыка Івана Неграбецкага.

З маіх аўтарскіх песень людзям найбольш падабаюцца «Едуць гарадскія». «Песня пра маму» добра ўспрымаецца на вяселлях і яна найлепш падыходзіць да той аранжыроўкі, якая была. Але за год ці два мы ўзновім старыя песні ў новых аранжыроўках. Яны будуць для танцавальных мэт, каб падабаліся людзям. На канцэртах публіка найлепш успрымае песні «Ты ляці мая душа», «Выйду на вуліцу», «Залатое калечка» ці «Белая чаромушка». Апошнюю Сяргей Славянскі выконвае пад загалоўкам «Алёнушка», а яе мелодыя выводзіцца з польскай песні «Śpiąca królewna».

**— Як паўстала песня «Дзяўчыначка»?**

— Была дзяўчына, якая мне вельмі падабалася. На сходах студэнцкага брацтва мы бачыліся ў кожны аўторак. Яна тады хадзіла з прыгожым хлопцам, які стаў бацюшкам, а яна — матушкай. Яна мне падабалася, але паколькі ўжо хадзіла з хлопцам, я з ёю не спатыкаўся. Мы проста былі знаёмымі. Мы спатыкаліся на брацкіх дыскатэках ці беларускіх атрасінах і ў такіх абставінах паўстала песня.

**— «Песня пра маму», таксама Ваша аўтарская, стала гімнам усіх матуль на Падляшшы. Ці часта яе спяваеце на вяселлях і як Ваша мама ўспрымае гэту песню?**



— Нашы людзі выехалі з Падляшша ў Варшаву, Гданьск ці ў Нямеччыну, Бельгію. На Беласточчыне засталіся толькі старэнькія жанчыны, вядома, нашы мамы. Гэта песня для іх, а перш за ўсё для маёй мамы, якая сама жыве ў канцы вёскі. Ужо многа пасялілася прыезджых. У Войшках таксама засталіся мамы, якіх дзеці забіраюць на зіму ў Беласток. Мая песня пра маму гэта вынік адчування таго, што малады чалавек мусіў кінуць сваю родную вёску і бацькоў ды выехаць у Беласток. Цяпер увогуле я вельмі цешуся, што магу быць аўтарам гэтай песні, што яе людзі спяваюць. Мы часта яе іграем на вяселлях, так як і песню «Тост для бацькоў». Думаю, што мне «Песня пра маму» ўдалася таму, што гэта песня ад маёй душы. Гэта песня маладога хлопца, які ішоў на аўтобус з Паўлаў у Беласток. Песня — гэта мая асабістая гісторыя.

**— Песня «Едуць гарадскія» стала гімнам усіх тых, хто нарадзіўся на вёсцы і жыве ў Беластоку. Як узнікла песня?**

— На Дайлілах была такая крама з CB-radio, у якой я працаваў. Сі-Бі-радыёстанцыі куплялі таксісты, шафёры. Я ўвесь час там наглядаў, як у кожную пятніцу аўтамашыны ехалі з Беластока на вёску. У 1990-я гады людзі сталі масава купляць аўтамашыны і тады з'явіліся коркі на дарогах. Калі пачалося «disco polo», а я быў крыху жартаўнік, напісаў, што едуць «там на вёску, дзе родныя закалолі парася» (тады яшчэ свіней калолі на вёсках і вазілі ў горад). Цяпер так «напіліся, наеліся, аж баліць жолондэк, каля бруха велькі непожондэк» — такія словы гаварыў мне мой тата. А словы «гнезда перабегчы» запазычыў я ў аднавяскоўца Юркі, які смяяўся з сябры Федзіка. Ідучы з намі на аўтобус, Юрка пытаў у яго: «Ну што, ты торбу ўзяў?», а Федзік казаў: «Не, яшчэ трэба гнезда перабегчы». Я гэтыя фразы сабраў і стварыў адзін цэласны вобраз. Так спявала сэрца хлопца, які мусіў кінуць родную вёску і выехаць у горад. Песня адлюстроўвае нашу эміграцыю ў гарады. Гэта ад сэрца заспяванае тое, што нас спаткала.

**— А як узнікла «Песня пра каханне»?**

— Гэта песня пра дзяўчыну, да якой я заляцаўся. Яна была з Трасцянкі, шэсць кіламетраў ад маёй мясцовасці. Аднойчы я ехаў на аўтамашыне і мне забралі вадзіцельскае пасведчанне, таму што выпіў дзве пляшкі піва. Пасля гэтага я мусіў ехаць у Гайнаўку на аўтобусе. Гэтая дзяўчына сядала на аўтобус у Трасцянцы. Тады я яе пабачыў і яна мне спадабалася. Я нават не думаў, што ў Трасцянцы такія прыгожыя дзяўчаты. Пасля ў ліпеньскую нядзелю мы з сябрам ехалі ў Нарву на аўтамашыне. Па дарозе бачу, што гэтая дзяўчына працуе пры сене. Маці дзяўчыны тады не было, была хворая. Сястра была ўнізе, а тая дзяўчына — на фуры, бацька пад'язджаў трактарам. А мы ўдвух з сябрам падышлі да іх і кажам, што паможам класці сена. Яны гэтую фуру наклалі, а я дапамагаў выкідаць сена. І так я пазнаёміўся з дзяўчынай, якая стала гераіняй «Песні пра каханне». Мы разам з ёй былі нейкі час, а пасля рассталіся. Пасля яе была мая жонка. Гэтая гісторыя вельмі цікавая і я яе ніколі нікому не расказваў. «Песня пра каханне» звязаная з дзяўчынай з Трасцянкі.

**— Сярод аўтарскіх песень маеце таксама песню «Айчына». Вы на касеце спявалі дзве страфы. Ёсць таксама трэцяя страфа. Як яна гучыць і чаму яе няма на альбоме?**

— Музыка гэтай песні ўзятая з украінскай песні «Два кольори мої» (музыка: Олександр Білаш, словы: Дмытро Павлічко, 1964 г. — Ю. Б.). Гэта песня пра нашых беларусаў з Беласточчыны, якія выязджаюць з вёсак у гарады ў Польшчы. Я не любіў гэтага, што нашы хлопцы спявалі польскую папсу і саромеліся свайго. А я якраз не баяўся сказаць наступнае:

Калі я ў горадзе жыву,  
То думкай хачу падзяліцца з вамі,  
Што маці і бацька беларус,  
Сябры ўстыдаюцца  
Сябе называюць палякамі.

Гэта трэцяя страфа і я яе не хацеў пускаць; можа крыху баяўся, што скажуць, што хтосьці кепска ўспрыме. І я афіцыйна гэтай страфы не запісаў. Агульна ў афіцыйным тэксце я хацеў сказаць, што калі мне было сямнаццаць гадоў, бацька хацеў перапісаць зямлю на мяне. Але тады была тэндэнцыя, што ўсе ішлі ў горад і я таксама выехаў туды. У тэксце былі мае назіранні наконт эміграцыі, сітуацыі нашых хлопцаў і нашых людзей з Беласточчыны, якія выязджаюць за хлебам ці лепшым жыццём у гарады.

Словы ўкраінскай песні «Два колери мої» такія:

Мені війнула в очі сивина,  
Та я нічого не везу додому,  
Лиш горточок старого полотна  
І вишите моє життя на ньому.

Словы ўкраінскай песні мяне натхнілі напісаць беларускую песню «Айчына» таксама пра тугу па радзіме, таму змест абедзвюх песень вельмі падобны. Мне якраз тое прыйшло ў галаву і я напісаў.

**— Вы таксама выступалі на «Басовішчы». Як успрымала публіка Вашу музыку і песні? Якое ў Вас стаўленне да беларускай рок-музыкі?**

— Я больш люблю музыку меладычную, фольк, гарманічную. Бачу, што ў рок-музыцы няма гармоніі. Можа я не разумею ўсю музыку і з гэтым мне асацыюецца рок.

**— Генадзь Шэмет мне сказаў, што ў ментальным плане рок-музыка не славянская, але англасаксонская. З Англіі пайшлі ў свет «The Beatles» ці пазней «U2», «The Police» і іншыя рок-групы.**

— Так, яна адлюстроўвае нейкі пратэст, бунт, а я як музыкант не заўсёды хацеў бы пратэставаць сваёй музыкай. Я мог бы напісаць тэкст пра палітыку, дэмакратыю, камуну, але такую песню я ніколі не хацеў бы спяваць. Напрыклад, наша песня «Хуліганы» гэта ў пэўным сэнсе бунт, але яе не спяваю ні на фэстах, ні вяселлях. Яе не пусціць на Радыё Беласток, таму што з якой мэтай: каб выкінуць з пасады войта Нараўкі ці войта Монек? Гэта не мае сэнсу. Хаця мне вельмі падабаюцца песні Сяргея Трафімава (адзін з самых папулярных рускіх выканаўцаў музыкі шансон — Ю. Б.). Задумваюся, ці не ўзяць у яго дазвол і заспяваць яго адну песню.

Гутарыў **ЮРКА БУЙНЮК**

## Семяноўка гуляла





Пасля поўдня 9 жніўня гэтага года (на св. Панцеляймона) каля вялікага мураванага будынка былой школы ў Семяноўцы Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета плылі беларускія, рускія і ўкраінскія песні. Надвор'е было па-летняму цёплае. Сюды на народны фэст прывезлі і паставілі вялікую мабільную сцэну. Тут а гадзіне 17-й пачаўся канцэрт у выкананні пяці мастацкіх калектываў: трох з Беластока ды па адным з Машчоны-Каралеўскай Мельніцкай гміны і Нараўкі.

Перад канцэртам войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі прывітаў сабраную перад сцэнай публіку і зычыў прыемнага святочнага адпачынку і самых лепшых уражанняў ад канцэрта. Семяноўскія жанчыны з мясцовага Гуртка вясковых гаспадынь „Езёранкі" пачаставалі ўдзельнікаў культурна-забаўляльнага мерапрыемства салодкім печывам.

Усе калектывы добра сябе адрэкамендавалі. Спадабаліся песні ў выкананні жаночага калектыву „Навіна" з Машчоны-Каралеўскай. У кабет прыродныя прыгожыя галасы. Такі ж голас і ў іхняга гарманіста. Вельмі прыгожы адменны голас у салісткі беластоцкага гурта „Вясна". Увогуле быў гэта добры канцэрт.

Пасля канцэрта ладзілі танцавальную забаву. Граў і спяваў гурт „Аксель" з Нарвы. Новае тое, што арганізатары частавалі кілбаскамі падагрэтымі на вогнішчы. У папярэднія гады так не было. 9 жніўня г.г. жыхары Семяноўкі і навакольных вёсак весяліліся, гулялі.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**



*Размова з **Аленай ЦЯЛЬКОВАЙ**, мастацкім кіраўніком фальклорнага гурта „Купалінка” Беларускай дзяржаўнай філармоніі, які сёлета ўдзельнічаў у Падляшскай актаве культур.*

# Свята душы

**— Вы часта бываеце ў Польшчы?**

— Даволі часта. Мы ў Польшчы былі ўжо 35 гадоў таму — у мінулым стагоддзі.

**— Часта прыязджаеце да нас, на Беласточчыну?**

— Па тры, па чатыры разы прыязджалі. На Купалле, на Раство, і проста на канцэрты, калі ў вас імпрэзы, на канцэрты нас запрашалі і мы так на пяць-шэсць дзён ездзім тут, па Беласточчыне.

**— А далей па Польшчы Вы бываеце?**

— Былі ў Лодзі, там нас ведаюць і запрашаюць — тры разы былі ў Лодзі. А былі таксама і ў Гданьску, і ў Гдыні, і ў Варшаве — дзе мы толькі не былі.

**— А па-за Польшчу кудысь выязджаеце?**

— 1967 год — ЭКСПА Манрэаль, чарговы год — Сафія, залатыя медалі мы атрымалі, 1969 год — Фінляндыя, 1970 — Швейцарыя... Мы ў мінулым годзе адзначылі пяцідзесяцігадовы юбілей творчай дзейнасці.

**— А як Вы ацэньваеце нашу публіку?**

— Мне ваша публіка падабаецца таму, што людзі прыходзяць і атрымліваюць асалоду. Некаторыя людзі вельмі добрыя, таму што калі мы ездзілі па Беласточчыне, то нам прыходзілася, калі гатэляў не было, начаваць у людзей. Якія ж яны мілыя, якія зычлівыя, якія сардэчныя, якія добрыя — ну, цудоўныя людзі. Як да сэрца прыкладваць.

**— Так як і Вас, Вашу музыку таксама да сэрца прыкладваць — не дзівуюся.**

— Вось гэтая энергія, мастацтва, уплывае на чалавека і яна яднае людзей...

**— Так-так — музыка яднае людзей. А можа Вы нешта хочаце дадаць яшчэ да сказанага?**

— Мне ўжо крыху гадоў, але я сёння ў радасным настроі, таму што сонейка, кветкі, усё прыгожа. Дзякуй людзям, якія маюць дачыненне да арганізацыі вось гэтых святаў. Гэтае культурнае мерапрыемства ўпрыгожвае вашу Беласточчыну. І столькі людзей, і столькі збіраецца выканаўцаў. І ўсё гэта іскрыстыя пачуцці... Гэта свята душы.

**— Сардэчна Вам дзякую.**

* * *

Калектыў „Купалінка” вельмі часта гасцюе на Беласточчыне, таму варта прысвяціць крыху больш увагі гэтаму знакамітаму ансамблю. Пра „Купалінку” так пісала Таццяна Ускова восем гадоў таму: „За гады існавання фальклорны гурт Белдзяржфілармоніі „Купалінка” не раз здзіўляў усё новымі пераўтварэннямі — і ў стылёвай палітры, і ў сваім складзе. Нязменным засталося адно: выканаўчае майстэрства. Яно, быццам бы дыямент, з цягам часу зззяе новымі і новымі гранямі. У выніку — калектыў Беларускай дзяржаўнай філармоніі запатрабаваны і ў краіне, і ў замежжы. Дарэчы, творчая біяграфія „Купалінкі” пачалася з народнай песні „Ой, рана на Івана”. Адсюль пайшла і назва ўнікальнага жаночага вакальнага квартэта. Яго стваральнікам і духоўным бацькам быў заснавальнік і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР народны артыст Савецкага Саюза Генадзь Іванавіч Цітовіч. Новым паваротам лёсу для калектыву стаў 1986 год. Заслужаная артыстка Беларусі Алена Цялькова прынцыпова змяніла аблічча „Купалінкі”. Гэта быў пошук адметнай сцэнічнай формы, рух да мастацкага ўдасканалення і паглыблення ў сутнасць народнай традыцыі. З акапэльных спеваў вялікую канцэртную праграму не зробіш. Тады ў гурт прыйшлі музыкі-ўніверсалы. Спевы, музычнае суправаджэнне, танцавальная лексіка — усё сплятаецца ў адзіную маляўнічую сюіту народнага свята. Гэтым, бадай, і адрозніваецца „Купалінка” ад іншых калектываў-паплечнікаў. Драматургія нумара — візітная картка гурту. Кожная песня — міні-спектакль”.

У 1991 годзе Алене Цяльковай прысвоена званне Заслужаная артыстка Беларусі, а ў 2012 годзе — ганаровае званне Народны артыст Беларусі.

Буклет калектыву „Купалінка” дадае: „Рэпертуар „Купалінкі” бязмежны: ад фолька да царкоўных спеваў. Апрацоўкі народных, аўтарскіх песень з выкарыстаннем пластыкі, тэатральных элементаў знітаваны адзінай драматургіяй і зліваюцца ў адно цэлае — жывыя жанравыя сцэнкі. Самабытная творчасць „Купалінкі” атрымала шырокае прызнанне на радзіме і ў краінах замежжа. Група бліскуча прадстаўляла і прадстаўляе нацыянальнае мастацтва на тысячах канцэртаў па Беларусі, а таксама на міжнародных мерапрыемствах у Расіі, краінах Прыбалтыкі, Канадзе, Люксембургу, Германіі, Бельгіі, Францыі, Югаславіі, Італіі, Сірыі, Карэі, Фінляндыі, Вялікабрытаніі, Швейцарыі, Балгарыі, Аўстрыі, Індыі, Японіі, Польшчы, Даніі, Кітаі — амаль па ўсім свеце. За ўдзел у рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных конкурсах, фестывалях і значны ўклад у развіццё беларускага мастацтва „Купалінка” ўзнагароджана прэміямі, дыпломамі і граматамі. Праз высокадухоўную творчасць „Купалінка” захоўвае, адраджае і папулярызуе традыцыі, звычаі народа Беларусі і сваім мастацтвам спрыяе духоўнаму адраджэнню, узвышаным адносінам да ўсяго роднага”.



Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Дарожныя сюрпрызы

На шашы Бельск-Падляшскі — Кляшчэлі вядуцца дарожныя работы. Па гэтай прычыне рух на паасобных адрэзках абмяжоўваецца, а рэгуляванне патоку аўтамабіляў адбываецца пры дапамозе святлафораў. У панядзелак 5 жніўня з Беластока ў Чаромху ў пасляабедзенны час (каля 13:30) падарожнічалі на аўтамабілі дачка Аліна з сынам Кшысем. І спасціг іх нечаканы сюрпрыз. Зараз за сялом Сухавольцы (на лясным адрэзку шашы) была ўстаноўлена светлавая сігналізацыя. Калі пад'язджалі да святлафора загарэлася зялёнае шкельца. За іхнім аўтамабілем падавалася яшчэ адна машына. Калі знаходзіліся ў палавіне дарожнага аб'езду, тады ўбачылі, што насустрач ім едуць дзевяць машын. Наступіла «загвоздка» на аб'ездзе. З супрацьлеглага аўтамабіля выйшаў маладзён у адзенні работніка дарожнай службы і загадаў дачцэ адступаць назад. Узнік скандал. Абодва шафёры тлумачылі, што пачалі ехаць на зялёным святле. Спрэчка доўжылася некалькі мінут. Пасля скандаліст з сустрэчнага аўтамабіля збавіў тон і папрасіў падацца назад, бо двум аўтамабілям лягчэй было вярнуцца, чым для дзевяці. Нашы ўступілі.

Але гэта не адна загана на гэтай дарозе. У Кляшчэлях неакуратна пазначаны аб'езды. У цэнтры горада, на вышыні пажарнага дэпо, едучы па прамой у напрамку чыгуначнага пераезда, вяліся дарожныя работы. Закрыта была вуліца, але не было ўказальніка аб'езду. Шафёр, заехаўшы па прамой у тупік, вымушаны вяртацца назад да скрыжавання дарог і падацца направа (побач карчмы «У Валентага»), каб бакавымі вулачкамі выехаць на чыгуначны пераезд. Шафёрам цяжка разабрацца ў якім напрамку ехаць.

А вяртаючыся да светлавой сігналізацыі перад Сухавольцамі, як патлумачыла мне пасля дачка, святлафоры адначасова паказвалі чырвонае святло з абодвух бакоў. Тэхніка, значыцца, забарахліла. Шафёры самі вымушаны былі рашаць, каму першаму ехаць. Таму мая просьба ў адрас дарожнай службы на кляшчэлеўскім адрэзку: паклапаціцеся, даражэнькія, аб належнае азначэнне дарожных указальных знакаў і сігналізацыі, каб шафёры не трацілі дарма каштоўны час на вырашэнне «дарожных галаваломак».

**Уладзімір СІДАРУК**

## Будзе больш камунальных кватэр

У Беластоку, як нідзе ў іншым горадзе ў Польшчы, пабудавалі многа камунальных меншых і большых кватэр. Кватэры тут велічынёю ад 23 да 73 квадратных метраў жылплошчы ў добрым стандарце. Запатрабаванне на камунальныя кватэры ў ваяводскай метраполіі вялікае.

Зараз іх будуюць пры вуліцы Каменскага на пасёлку Бацечкі. Тут ставяць два шматсямейныя будынкі на 113 кватэр. Пры новых блоках будуць стаянкі для аўтамабіляў — на 48 месцаў ды пад адным з блокаў падземны гараж на 65 месцаў.

Варта дадаць, што Камунальнае таварыства сацыяльнага будаўніцтва ў Беластоку мае 49 жылых будынкаў, а ў іх больш за 2,5 тыс. кватэр. Да КТСБ належыць таксама 328 гаражоў. **(яц)**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# **Берасце** — старажытны, маляўнічы горад!



Аляксандра КОРЧ, першая злева



Я напішу пра экскурсію ў Берасце на Беларусі. У падарожжа паехала дваццаць вучняў шолы № 4 у Гайнаўцы і столькі ж вучняў школы ў Дубінах, з якой у нас сяброўскія адносіны. Да мяжы з Беларуссю мы даехалі вельмі хутка і спраўна перайшлі граніцу.

На пачатку мы пабачылі ваенны ансамбль Брэсцкая крэпасць. Найбольш уразілі мяне кветкі, якія людзі клалі да помнікаў жаўнерам. Чарговы пункт падарожжа — гэта цырк на вадзе. Мне вельмі падабаўся паказ акрабатаў, але я была стомлена пасля ўсіх уражанняў і падарожжа. Апошнім месцам, куды мы паехалі, была крама. Мы маглі купіць беларускія прадукты, якіх няма ў Польшчы. На другі дзень мы наведалі музей чыгункі. Ён знаходзіцца пад адкрытым небам. У музеі мы пабачылі цягнікі перыяду Другой сусветнай вайны.

Аднак самае цікавае чакала нас на канец. Мы паехалі на славутую вуліцу Савецкую, дзе каларытны гарадскі бульвар. Разам з сяброўкай мы зайшлі ў сувенірную краму «Князь Вітаўт». Там было шмат сувеніраў, якія мяне проста захапілі.

Берасце, якое мы наведалі, вельмі прыгожы, маляўнічы, стары горад. Сёлета тут адзначаюць 1000 гадоў ад заснавання горада.

Для мяне гэта была адна з найлепшых экскурсій. Я прывезла многа незабыўных успамінаў.

**Аляксандра КОРЧ,**
*«Бел-News»*




Малюнак
Кляўдзіі Ніканчук

**Аляксандра АЛЕКСЯЮК**
*Тапаляны, ПШ у Міхалове*

## Кот

Быў сабе кот,
Які любіў клапот.
Штодзень проста чакаў,
Самых мышэй спатыкаў.
Аднаго дня ён прапаў,
Дзе ён?
Ніхто не знаў.

**Дагмара КРАЎЧУК**
*Міхалова*

## Хачу

Я часам думаю,
Як гэта было б катом стаць,
Ці тады буду прыгожая?
Можа я цяпер прыгожая,
Але ніхто не бачыць мяне.

**Сяргей Брандт**, 20.06.2013

## Калі цвіце верас

Верас духмяны чароўным цвіце,
Водарам цягне з хаты дзяўчынку.
Быццам бурштыны сляды на расе,
Куды завядзе яе стужка-сцяжынка?

У мох асцярожна ступае нага,
Хвоі сяброўку з бакоў абступаюць.
Мелодыя льецца серабром ад стаўка
І цені-гарэзы ў лес адступаюць.

Дзяўчынка танцуе, а з ёй карагод
Закруцяць да раніцы жвавыя зоркі.
«Шаноўная» — шэпча здзіўлёна чарот,
Пакланяцца ёй травяністыя зёлкі.

Ніхто не заўважыць — туман абгарне,
Схавае надоўга лес ды дзяўчынку.
І зніклі раптоўна сляды на расе,
Як знікла вузкая лясная сцяжынка.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 33-19

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 2 верасня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Лысенькая кабылка
гліны навазіла,
гняздо збудавала,
сама жыць не стала.**
**(Л.......)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 29: вулей і пчолы. Узнагароду, аўтаручку, выйграла Магда Якуюбк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Заўсёды сабе дакладаю больш!

**«Шэпты з шафы»: (Першае пытанне ставіць Мікола Абрамюк з Беластока, які прыстойна размаўляе на пяці мовах — рэд.) - Колькі ведалі Вы моў, будучы ў нашым узросце?**

МіхасьСцепанюк: — З польскай уключна я ведаў чатыры мовы: англійскую, беларускую і рускую таксама. Напэўна гэта быў ніжэйшы ўзровень, як у Цябе. Бо зараз у вас, што мне падабаецца, намнога большыя магчымасці. Вы маеце між іншым інтэрнэт, розныя гульні, фільмы...

**Шзш: — Ці Вы ў хаце гаварылі па-свойму?**

М.С.: — Не, дэ-факта пасвойму навучыў мяне гаварыць Дарэк Фіёнік.

**Шзш: — Якая ў Вас была матывацыя да вывучэння замежных моў, асабліва іспанскай?**



М.С.: — Гэта ўсё, як не цікава, пачалося з беларускай мовы. Я стаў лаўрэатам па беларускай мове ўжо ў другім класе ліцэя. Зараз ведаю, што сярод вучняў вельмі папулярнае рэпетытарства. Калі нехта, скажам, хоча паступаць на медыцынскі факультэт, то ён пойдзе да рэпетытара на прыватныя ўрокі біялогіі ці хіміі, а калі нехта хоча ісці на палітэхніку, ён возьме дадатковыя ўрокі матэматыкі. І гэтак далей... Дзякуючы алімпіядзе, я меў свабодны ўступ на вышэйшыя навучальныя ўстановы. Узнікла пытанне — што рабіць з часам? Я, на жаль, не ўмею сядзець і нічым не займацца. Я падумаў, буду вывучаць нейкую замежную мову. У Бельску, адкуль я родам, не было вялікіх магчымасцей, таму я выбраў іспанскую. Знайшоў настаўніка, дарэчы, гэта муж маёй настаўніцы з ліцэя.

**Шзш: — У якіх сітуацыях Вы выкарыстоўваеце замежныя мовы?**

М.С.: — Перш-наперш у камунікацыі з людзьмі ці ў падарожжах. Зараз яшчэ ў навуковай працы. Я не люблю мець мала заняткаў, таму заўсёды дакладаю сабе больш. Зараз я пішу дысертацыю на факультэце іберыстыкі ў Варшаўскім універсітэце.

**Шзш: — Чаму варта старацца папасці на Сустрэчы «Зоркі»?**

М.С.: — Сустрэчы «Зоркі» адкрываюць іх удзельнікаў на шмат рэчаў. Вы дасталі чарговую магчымасць развіцця ўласнай асобы. Добра, што ёсць смартфоны і ўсякія прылады, трэба імі разумна карыстацца. Але свет і магчымасці ў іншым месцы не дадуцца вам без працы і развіцця ўласнай асобы. Вам трэба чытаць, мець свае мары і сілу, каб іх рэалізаваць. Сустрэчы «Зоркі» даюць такую сілу, абуджаюць цікавасць да свету і новых выклікаў.

## Дзённік
### Сустрэч «Зоркі» (7)

II чэрвеня, аўторак, гадзіна I9:00

Сёння мы сустрэліся з вядомай паэтэсай Мірай Лукшай. Яна адказала на наш сустрачанскі апытальнік і пачала чытаць свае творы. Гэта былі вершы са зборнікаў «Спеў дрэў» і «Жывінкі з глыбінкі». Мяне найбольш зацікавіў верш пра старую яблыню. Ён быў вельмі шчыры і сумны. Гэты верш мяне моцна ўразіў. Калі я вярнуся дахаты, напэўна прачытаю ўсе творы з гэтай кніжкі.

Міра Лукша — мудрая, сімпатычная асоба, сапраўдная паэтэса сусветнага значэння.

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

## Польска-беларуская крыжаванка № 33-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 29-2019:**

Ягня, інакш, смех, стан, іва, дождж, ар, жужалка, бык, смык, столь. Скунс, горад, ножык, імідж, не, жарт, хахі, вакол, Шчара.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Песні і народныя танцы **ў Дубінах**

**Вёска Дубіны, якая зараз спалучана з горадам Гайнаўкай, у васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя стала вядомай з-за беларускага вакальна-інструментальнага калектыву «Дубіны», якога песні карысталіся ў народзе вялікай папулярнасцю. Цяпер беларускія народныя фэсты ў Гайнаўскай гміне найчасцей арганізуюцца ў Дубінах, дзе актыўна дзейнічае Гмінны цэнтр культуры. Паявілася прапанова аднавіць дзейнасць славутых «Дубіноў» з часткай членаў даўняга калектыву, аднак рэалізацыя гэтай задумы надалей застаецца адкрытай. Другі дубінскі калектыў «Лотас», які таксама іграў на вясковых забавах, аднавіў дзейнасць і выступае з двума мужчынамі з даўняга складу. Цікава запрэзентаваўся ён у час беларускага народнага фэсту, які 20 ліпеня арганізавалі ў Дубінах Беларускае грамадска-культурнае таварыства разам з войтам Гайнаўскай гміны і Гмінным цэнтрам культуры.**


Жаночы калектыў «Аморфас» з Сямятыч


Адноўлены вакальна-інструментальны калектыў «Лотас» з Дубін


Жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь з Навакорніна прапанавалі частавацца бутэрбродамі і смакоццем, спецыяльна выкананымі на фэст

Беларускі народны фэст адбыўся на пляцоўцы Экуменічна-этнаграфічнага цэнтра, які змяшчаецца ў будынку былой школы. У цэнтры рыхталіся да выступаў салісты і калектывы, якія прыбылі з Дубін, Гайнаўкі, Махнатага, Бельска-Падляшскага, Сямятыч, Беластока і Пружан. Цёплая і сонечная субота прыцягнула шматлюдную публіку перш за ўсё з навакольных вёсак і суседняй Гайнаўкі.

Першай займальна выступіла Вераніка Пташынская з Гайнаўкі, якая прэзентуецца з беларускім рэпертуарам у час многіх беларускіх мерапрыемстваў. Беларускі калектыў «Жаваранкі» з Махнатага выступіў з рэпертуарам, падрыхтаваным з дапамогай музычнага кіраўніка Марка Зубрыцкага. Мерапрыемства адкрылі віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень і войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

— Мы, арганізуючы беларускія музычныя мерапрыемствы, намагаемся захаваць беларускія песні і культуру. Паказваем, што ёсць у нас свая беларуская культура. Падчас мерапрыемстваў ствараем магчымасць выступіць нашым беларускім калектывам, якім неабходна запрэзентавацца перад публікай. Мы арганізавалі ўжо беларускія народныя фэсты ў Дуброве-Беластоцкай, Саколцы, Гайнаўцы («Крыначка») і Бацiках-Бліжэйшых. Сёння ладзім фэст у Дубінах. Будзем яшчэ арганізаваць фэсты ў Галадах, Нараўцы, Рагачах, Бельску-Падляшскім і Сямятычах. Плануем наладзіць таксама канцэрты беларускай музыкі ў Дубічах-Царкоўных і Нурцы-Станцыі, якія па характары падобныя да фэстаў, — сказаў віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень.

На фэст прыбылі таксама старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, гмінныя радныя і чыноўнікі. Удала вяла беларускае мерапрыемства Юліта Сушч, а арганізацыйнымі пытаннямі займалася новая дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Марыёля Герман-Петручук. Публіка беларускіх мерапрыемстваў добра ведае яе як вядучую многіх беларускіх музычных імпрэз, якія арганізавалі Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і гмінныя ўлады на Гайнаўшчыне, а таксама як вакалістку беларускага калектыву «Арт-Пронар» у Нарве.

— Спевы і танцы на сцэне, сонечнае цёплае надвор'е паспрыялі таму, што сёння на фэст сабралася многа публікі. Гэта ў многіх выпадках энтузіясты беларускага слова, беларускай песні і беларускага танца, — сказала дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Марыёля Герман-Петручук. — Я ў цэнтры культуры хачу арганізаваць гурток для дзетак, дзе маглі б яны, між іншым, развучваць песні на беларускай мове. Хачу таксама ладзіць аўтарскія сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і цікавымі асобамі. У маі мы арганізавалі інтэграцыйнае мерапрыемства ў Дубінах і «Маёвы канцэрт галасоў» у Трывежы, дзе выступіў, між іншым, хор «Свірэль» з Мінска. Падчас спаборніцтваў пажарнікаў плануем арганізаваць у Трывежы мерапрыемства з беларускай музыкай. У Гайнаўскай гміне працуюць гурткі вясковых гаспадынь у Навасадах, Ліпінах, Новаберазове, Старым Беразове, Барысаўцы, Ліпінах, Хітрай, Навакорніне і Трывежы, якія ладзяць імпрэзы, у тым ліку музычныя. У пачатку верасня супольна з Аб'яднаннем «Крыніца» будзем ладзіць у Ліпінах бульбафэст з беларускімі песнямі і шматлікімі атракцыёнамі. Яшчэ да гэтага часу будуць арганізавацца ў Ліпінах і Трывежы майстар-класы і заняткі для дзетак і дарослых.

Часта на сцэну выходзіў калектыў беларускай песні і танца «Спадчына» з Пружан, які прэзентаваў беларускія народныя танцы ў аранжыроўцы музычнага кіраўніка калектыву Валянціны Іскальевай. Займальна і з цікавым рэпертуарам выступіў беларускі хор «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага, які падрыхтавалі да выступу музычны кіраўнік Мікола Фадзін і яго жонка, харэограф Людміла Фадзіна.

— Мы зараз амаль усе песні суправаджаем дэталямі беларускіх народных танцаў. Я вучу спеву і састаўляю акампанемент на акардэоне, а мая жонка Людміла вучыць фрагментам або толькі дэталям беларускіх народных танцаў. Гэта зрабіла выступы «Васілёчкаў» больш цікавымі, — патлумачыў Мікола Фадзін.

— Хор «Васілёчкі» першы раз пасля заснавання выступіў якраз у Дубінах. Я памятаю, што мы моцна хваляваліся, як атрымаецца наша першае выступленне перад публікай. Атрымалася яно ўдала, — успомніў Уладзімір Весялоўскі, які вылучаўся на сцэне падчас танцаў, пераапрануты за беларускага казака з шабляй.

— У гэтым годзе мы рыхтуемся да юбілею. Сёння наш хор «Васілёчкі» запрэзентаваўся з цікавым рэпертуарам, звяртаючы асаблівую ўвагу на танцавальную праграму, — сказала арганізацыйны кіраўнік хору «Васілёчкі» Ніна Бялецкая.

Цікава па-беларуску заспявала вучаніца Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы Оля Мілішэўская, а беларускія вершы дэкламавалі дзеткі Ганна і Ян Балтрамюк. З цікавым беларускім песенным рэпертуарам запрэзентаваўся жаночы калектыў «Аморфас» з Сямятыч, які да выступаў рыхтуе Галена Шчыгал. Паставіла яна на беларускія народныя і эстрадныя песні, якія займальна гучалі ў Дубінах. У час белфэсту вылучаліся жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь «Карнішонкі» з Навакорніна, якія прапанавалі за невялікай платай частавацца бутэрбродамі і смакоццем, спецыяльна выкананымі на фэст у Дубінах.

— Мы яшчэ толькі пачынаем сваю дзейнасць. Назвалі мы наш гуртом «Карнішонкамі», паколькі асацыюецца з назвай вёскі Навакорнін, якую ў нас проста называюць Корнінам. Наладзілі мы арганізацыйныя сустрэчы, суарганізавалі Дзень дзіцяці і рашыліся падрыхтаваць пачастунак удзельнікам сённяшняга фэсту і крыху здабыць сродкаў на сваю дзейнасць, — гаварыла Анна Шварц, якая кіруе гуртком.

Адны асобы частаваліся, каб ацаніць смак паасобных страў, іншыя прагаладаўшыся, бралі больш, каб пад'есці. Можна было таксама пазнаёміцца з прапанавамі Мясцовай групы дзейнасці «Белавежская пушча» ў Гайнаўцы. Калектыў «Лайланд» з Беластока, якога дзейнасцю кіруе Багдан Астапчук, запрэзентаваў цікавую праграму з беларускімі песнямі. Калі на сцэну выйшаў вакальна-інструментальны калектыў «Лотас» з Дубін, які ўзнавіў дзейнасць пры Гмінным цэнтры культуры, выклікаў ажыўленне сярод старэйшай публікі. Цяпер кіраўніком калектыву «Лотас» з'яўляецца Гражына Сахарчук, а раней спявала ў ім, будучы ўжо войтам Гайнаўскай гміны, Люцына Смактуновіч.

— Калектыў «Дубіны» здабыў вялікае прызнанне ў публікі, а «Лотас», які таксама іграў па забавах, быў прызабыты. Аднавіў ён сваю дзейнасць пасля сарака гадоў перапынку, з удзелам двух мужчын са старога складу і жанчын, якім цікавы старыя песні, што спяваліся ў мінулым на забавах. Я таксама стала хадзіць на рэпетыцыі калектыву «Лотас» і спявала ў ім два гады. Зараз «Лотас» выступае ў час нашых музычных мерапрыемстваў. Сёння я рада, што сабралася многа публікі. Фэсты заўсёды бываюць вялікім мерапрыемствам у нашай гміне, — распявяла ў час выступу калектыву «Лотас» войт Люцына Смактуновіч.

Паколькі нядаўна быў я ў Хітрай на адміністрацыйнай расправе адносна намеру будовы паміж Дубічамі-Асочнымі і Хітрай прадпрыемства піролізу гумы, спытаў я войт Люцыну Смактуновіч пра рашэнні ў гэтай справе.

— Гайнаўская санэпідстанцыя адмоўна ацаніла намер будовы каля Дубіч-Асочных прадпрыемства піролізу гумы, але для мяне значэнне гэтай ацэнкі толькі дарадчае. Самай важнай з'яўляецца адмоўная пастанова Рэгіянальнай дырэкцыі аховы асяроддзя ў Беластоку. Яна дала мне падставу не даваць згоды на будову прадпрыемства піролізу гумы каля Дубіч-Асочных, — паінфармавала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**



Славамір КУЛІК
**Гайнаўка**






Малгажата САДОЎСКАЯ
**Шымкі, Міхалоўская гміна**

## Толькі ты

Твае вусны –
Халодны месяц
Агрэю іх.
Зберагу зрэнкі
Тваіх вачэй
Перад ранішнім туманам.
Твае валасы
Лагоднае мора
Раскудлачу ў шторм.
У тваіх думках
Сярод палявых руж
Намалюю блакіт сноў.
Пойдзем разам
За гарызонт
Да бясконцасці
Пяшчотных, ціхіх слоў.

## Дарога

Космас для нас недаступны
Там няма кахання
Акіян — халодная прастора
Як учарашняя сляза
На раздарожжы жыцця
Дзве дарогі
Направа шчасце і каханне
Налева небыццё
Дарога расступаецца пад нагамі
Касмічная пустата
Адбірае дыханне
Сэрца б'е толькі з турботы
Адзінокія вочы
Блукаюць у пустой далечыні
Мучыцель-час
Спалучыўся з бязмежнай прасторай
Хачу цябе цяпер і тут
Як крошкі на галодным стале
Пакажы мне дарогу направа
Павядзі шчасліва праз жыццё

## Добры чалавек

Толькі што нарадзіўшыся
Напружваўся як дуб
Рос памяркоўна але здарова
Як звычайнае дрэва
Летам на сонцы загараў
Зімы ў здароўі трываў
А вясною?
А вясною расцвітаў

Як падрос
Цяжка працаваў
Бацьку памагаў
Пасвіў кароў, замлю араў
Чалавекам быў
Для ўсіх
Сям'ю прыдбаў (нажыў)
Шанаваў сваіх і чужых
Аднойчы сядаў на веласіпед
Ля свайго дома
І ўпаў на зямлю
Як спелы жолуд

## Добры дзень

Заўтра ўстане новы дзень
Надзея будзе за парогам
Раніцай «добры дзень»
Усім скажу
Пайду дарогай мары
Не веру ў паршывы лёс
Хаця калоды кідае пад ногі
Упарта тку палатно жыцця
Мінута за мінутай
Ахоплены прадчуваннем крыўды
Памагу табе ўстаць з каленяў

## Я

Сяджу ціхенька,
Вакол зялёна,
Я пачынаю смяяцца весела,
Я адна, а вакол многа сяброў,
Я кахаю гэтую траву,
Я люблю сяброў, але яны мяне не,
Але я жыву далей,
Але смяюся гучна,
Незалежна ад праблем,
Я люблю сваё жыццё.

## Чаканне

На небе поўна белых кропак,
Але адна іншая,
Не белая, не чырвоная,
Проста колеру сонца,
Яна глядзіць на дарослых і дзяцей,
На шчаслівых і на сумных,
Чакае, можа яе ўбачаць,
Яна не просіць,
Цярпліва чакае на сваім месцы,
Каб адарвацца ад рэчаіснасці,
І паказаць, што калісьці будзе лепш.

## Сум

Часам мне сумна так,
Сум у маім жыцці,
Я часта ўсё кідаю,
Я часта ўсё забіраю,
Я часта губляюся,
А цяпер усё ў словы адзяваю,
Чую, што ўсё кепскае ўцячэ,
Як бурбалка лопне,
У мяне самыя выбары,
Але ўсе кепскія, кепскія,
Можа калісьці мне пашанцуе,
Можа, калісьці, але цяпер шукаю,
Шукаю, гэтага шчасця, якое хаваецца,
Я чакаю,
Трудна,
Збаўлення чакаю,
Цяпер і трудна...

# На рэабілітацыйным аддзяленні — 2019 (5)

Серада, 15 траўня. Доўжыцца пратэст фізіятэрапеўтак. Не ўдзельнічаюць Лукаш з Мацькам. Абслугоўваюць пацыентаў у працэдурных залах на першым паверсе, ды і па суботах на рэабілітацыйным аддзяленні пасля абеду. Такое рашэнне прынялі ў размове з дырэктарам. Кааптавалі нам новага пацыента. З накіраваннем чакаў у чарзе два месяцы. Выходзіць з-пад Браньска.

— Чаму не ў Бельск-Падляшскі падаўся? — пытаю. — Намнога бліжэй.

— Чарга большая, ды і мне з Гайнаўкі патэлефанавалі, — гаворыць Казік. — Я не ўпершыню тут... У Гайнаўцы лепшыя спецыялісты, затым і больш працэдур пацыентам запісваюць...

Субота, 18 траўня. Сонечная цеплыня доўжыцца ад пэўнага часу. У палаце духата. Мае кампаньёны карыстаюцца свежым паветрам. Гуляюць у цяньку прышпітальных алеек. Я не ў змозе варухнуцца па прычыне балючых ног. Познім вечарам над горадам прайшла навальніца з перунамі.

У панядзелак, 20 траўня, закончыла рэабілітацыю сардэчная сяброўка з палаты № 13 Валя Гайдук з Храбустоўкі. Мы яе называлі «нашай» шэфовай. Яна дапамагала медсястрыцам пры выдачы харчавання і кухаркам пры зборцы пасуды. Задушэўная ды і гаваркая субяседніца шпітальных сустрэч. У той жа дзень наведаў мяне школьны сябра з Чаромхі Колька Раманчук. Перадаў свежыя навінкі. Набліжайся мой дзень выпісу. Паведаміў мне аб гэтым доктар Адам.

— Выпіс будзе падрыхтаваны да дзясятай, — сказаў. — Рэцэпт запіша сямейны лекар.

У аўторак 21 траўня на нашым аддзяленні працавала мая ўдомая медсястра, аб якой я і не ведаў.

— А мы знаёмыя, — гаварыла пажылая сястра з вясёлай усмешкай.

— Адкуль сама будзеш? — пытаю.

— Ты, пан Сідарук, да майго бацькі ў Кляшчэлі заходзіў. Добра памятаю...

— Твой бацька Ян Бадавец?...

— Гэты сам. Я яго дачка, Надзька.

Пакрысе я пачаў прыгадваць. У майго сардэчнага прыяцеля Яна Бадаўца з Грузкай, вядомага печніка ў наваколлі, было дзве дачкі — старэйшая Марыся ды малодшая Надзя. Па матулі, значыцца, ахрысцілі. Затым быў яшчэ сын Янка. Працаваў вартаўніком службы аховы чыгункі на станцыі ў Чаромсе. Бадаўцоў у Кляшчэлях я амаль кожны панядзелак наведваў, пакольі заязджаў на кірмаш. Надзька тады вучылася ў медычнай школе, у якой настаўнічала старэйшая сястра Марыся. Прыпамінаю зараз кволенькую бландзіначку. Сустракаў яе гадоў сорак таму.

— Зараз я ўжо старая, — прыжмурыўшы вочы гаварыла субяседніца Надзея. — Пенсіянерка ўжо. Але па прычыне нястачы акушэрак у шпіталі прыйшлі і папрасілі ў дапамогу. Пагадзілася.

— А як там татуль трымаецца? — цікаўлюся.

— Няма ўжо. У жніўні мінулага года памёр. Раней сцягно паламаў. Пасля аперацыі інфекцыя спасцігла. Не вытрымаў...

Няхай зямля Яму пухам будзе. Па прыяцелю памятка ў мяне засталася. Збудаваў мне адмысловую сушылку для грыбоў у летняй кухні. Па сённяшні дзень ёю карыстаюся.

Апошні тыдзень маёй рэабілітацыі сцякаў на падрыхтоўцы да выпісу. На Міколу (22 траўня, царкоўны фэст у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы) наведаў мяне Алёша Бялеўскі, з якім параднілі тры гады таму ў гэтым жа шпіталі на рэабілітацыйным аддзяленні і па сённішні дзень трымаем сардэчныя адносіны. Пры кожнай нагодзе наведвае мяне.

Нядзеля, 26 траўня, запісваецца ў маім дзённіку як адмысловы дзень удзельніка еўрапейскіх парламенцкіх выбараў. Я прагаласаваў за «Еўропу».

У панядзелак, 27 траўня — дзень выпісу. Па тэлефоне з беластоцкай дачушкай Алінкай дамовіліся, што заедзе за мною перад абедам. Выпіс зрабілі мне раней. І здарылася рэч небывалая, якая не павінна была здарыцца ў публічным шпіталі. Не паспеў я пераджаваць снедання, як перадалі мне «загад» лекара, каб выбраўся з рэчамі з палаты, бо на маё месца прыходзіць новы пацыент. Я адказаўся, вядома, аргументуючы, што дачка за мною прыедзе каля дванаццатай гадзіны. Выбухла спрэчка. Перад палатай сабраўся натоўп. Непрыемнае відовішча. Я не адступаў, калі лекар, апякун нашай палаты, рэкамендаваў дапамагчы перанесці мае рэчы ў пакой адпачынку. Але тут жа з'явіліся медсястрычкі, дзяжурная па аддзяленні, якія рашуча загадалі:

— Адпачывайце, пан Сідарук, на сваёй пасцелі да прыезду сямейнікаў.

Але нядоўга прыйшлося мне заставацца ў няёмкай сітуацыі. Пасля дзясятай раніцы я развітаўся са сваімі кампаньёнамі і сардэчнымі сяброўкамі-медсястрычкамі, якія жадалі моцнага здароўя і хуткага аздараўлення.

❖ Уладзімір СІДАРУК

# У Зэльве ўшанавалі Ларысу Генію́ш

Ушанаваць беларускую паэтку і змагарку Ларысу Геніюш (1910-1983) 10 жніўня ў Зэльву прыехала няшмат людзей, як і летась. Тым не менш ушанаванне адбылося. Пачалося яно раніцай у Зэльвенскай Свята-Троіцкай царкве набажэнствам у гонар слаўнай беларускі. На набажэнстве прысутнічалі і зэльвенцы, і тыя, хто прыехаў згадаць паэтку з Гародні і Слоніма. Потым, каля помніка Ларысе Геніюш, які знаходзіцца на царкоўным цвінтары, пра паэтку, яе творчасць і лёс казалі сябры Гарадзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянцін Дубатоўка, Ала Петрушкевіч, Сяргей Чыгрын і Мікола Кананові́ч. Шчырымі словамі прыгадала сустрэчы з Ларысай Антонаўнай і яе сяброўка, суседка Ірына Тукальская, якая таксама далучылася да прысутных. На Зэльвенскіх могілках пад бел-чырвона-белым сцягам да магілы Ларысы і Янкі Геніюшаў былі ўскладзены кветкі, а Валянцін Дубатоўка сказаў, што ў наступным годзе Ларысе Геніюш спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння, таму гэта дата будзе адзначацца ў Зэльве і ў Беларусі шырока і масава.

**Барыс Баль,**
Беларускае Радыё Рацыя, Зэльва
Фота аўтара






## Дата з Календара



# 365 гадоў з дня бітвы пад Шкловам

12 жніўня 1654 г. адбылася бітва корпуса Януша Радзівіла пад Шкловам з маскоўскім войскам князя Чаркаскага, у выніку якой войска Вялікага Княства Літоўскага перамагло. Гэта была бітва страшнай у нашай гісторыі Трынаццацігадовай (1654-1667) вайны з Масковіяй.

У жніўні 1654 г. пад ціскам колькасна большых маскоўскіх войск корпус вялікага гетмана літоўскага **Януша Радзівіла** (6-8 тыс. чалавек) адышоў ад Оршы на поўдзень да Барані, пасля да Копысі і Шклова. 12 жніўня да Шклова падышоў авангард войска маскоўскага ваяводы Чаркаскага (не менш за 20 тысяч чалавек) і напаў на вайсковую варту Радзівіла, якая бараніла горад.

Каб не дапусціць злучэння войск Якава Чаркаскага і Аляксея Трубяцкога (15 тыс. чал.) які падыходзіў да Дняпра, Радзівіл вырашыў даць бой. Для бітвы ён абраў удалае месца — адзіную дарогу да Шклова за некалькі кіламетраў ад горада, дзе два равы засланялі крылы войска ВКЛ. Гэта не дазволіла б маскоўцам выкарыстаць колькасную перавагу. Да таго ж перад сабою ліцвіны мелі рэчку Шклоўку і маглі біцца з тымі аддзеламі маскоўцаў, якія пераправіліся праз брод. Чаркаскі таксама не збіраўся атакаваць Радзівіла ў той дзень — частка яго аддзелаў была расцягнута па дарозе і мусіла прыбыць толькі праз некалькі гадзін.

Януш Радзівіл вырашыў уцягнуць авангард маскоўцаў у бойку і потым разбіваць іх малымі групоўкамі. Некалькімі раз'ездамі ліцвіны зацягнулі частку маскоўскіх палкоў на абранае поле. Пачаўся бой, які цягнуўся больш за 5 гадзін. Войска ВКЛ не магло ўзяць верх, бо да маскоўцаў цэлы час далучаліся новыя сілы, што рухаліся з-пад Копыся. Згадваецца, што кожнай літоўскай харугве давялося 5-6 разоў атакаваць маскоўцаў, а пасля пад ціскам адыходзіць да схаваных у засадах у равах драгунскіх палкоў. Бітва цягнулася да 9-й вечара. Януш Радзівіл асабіста ўдзельнічаў у бітве, што дадавала ўпэўненасці войску. Апошняя атака конніцы ВКЛ здолела зламаць шэрагі маскоўцаў і амаль мілю гнаць іх. Да таго ж маскоўскі рэйтарскі полк у цемры абстраляў сваіх.

У выніку шматгадзіннага бою маскоўская конніца адступіла да абозу і пяхоты, пакінуўшы поле за войскам ВКЛ. На той час гэта лічылася перамогай. Але яна дасталася дарагім коштам — аддзелы ВКЛ страцілі шмат важных жаўнераў. Загінуў пад Шкловам вайсковы суддзя Марцін Ян Чудоўскі, адзіны сын літоўскага стражніка Рыгора Мірскага — Геранім. Шмат параненых памерлі, не атрымаўшы медыцынскай дапамогі. Агульныя страты налічвалі ад 200 да 700 чалавек. Маскоўская страты крыніцы Рэчы Паспалітай ацэньваюць на 7000-8000 чалавек. А літоўскія жаўнеры пісалі, што налічылі забітых каля 3000 маскоўцаў і двух іх ваяводаў.

Страты, стомленасць і нешматлікасць войска Вялікага Княства не дазволілі скарыстацца перамогай. У ноч на 13 жніўня Януш Радзівіл загадаў адыходзіць на захад да Галоўчына і Барысава. Хоць пабітыя аддзелы Чаркаскага і адышлі да Оршы, але ў іх засталася значная перавага ў колькасці. Свежае войска Трубяцкога было на падыходзе. Яго авангард спазніўся толькі на гадзіну да заканчэння бітвы. Але новыя маскоўскія сілы цалкам з'явіліся пад Шкловам толькі 30 жніўня. Маскоўскія публікацыі альбо не згадваюць гэтую бітву, альбо прыпісваюць перамогу сабе.

13 жніўня да ліцвінаў прыбыла дапамога ад князя Багуслава Радзівіла і Юрыя Нямірыча — 2500 жаўнераў. Але гэта было замала і не выратавала іх ад паразы 24 жніўня 1654 г. у бітве пад Шапялевічамі.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# XV фотаконкурс „Падляшша ў аб'ектыве імя Віктара Волкава"




Прымаюцца заяўкі на 15-ы нацыянальны фотаконкурс „Падляшша ў аб'ектыве імя Віктара Волкава". Тэма конкурсу — Падляшша з яго архітэктурай, прыродай, людзьмі і ўсёй культурнай мазаікай. Арганізатар не накладвае тэматычных падзелаў, ствараe поле для любой інтэрпрэтацыі фатографа. У конкурсе могуць удзельнічаць фатографы як з Падляшскага ваяводства, так і з усёй Польшчы, прафесіяналы і аматары. Фатаграфіі ацэньвае журы, прызначанае з ліку фатографаў і мастакоў Падляшскага ваяводства. Работы на конкурс павінны быць пададзены да 15 кастрычніка 2019 года. Абвяшчэнне вынікаў, цырымонія ўзнагароджання і выстава пасля заканчэння конкурсу запланаваны на снежань 2019 года. Выстава будзе выстаўляцца ў Музеі і Асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы каля года, таму што з'яўляецца выдатным дадаткам да этнаграфічных выстаў. Пазней яна „падарожнічае" па Падляшшы. У 2015 годзе 10-ы конкурс быў прадстаўлены ў Берасці і Гародні. Конкурсныя работы падаюцца ў выглядзе фотадрукаў у фармаце А3 з фотаздымкамі ў электронным варыянце (jpg, tif) на кампакт-дыску. Арганізатар дазваляе адпраўляць фатаграфіі электроннай версіі на адрас kontakt@muzeumbialoruskie.pl (разам з запоўненай і падпісанай анкетай у выглядзе сканавання). Кожны ўдзельнік можа даслаць на конкурс максімум 3 фота. Каб запоўніць анкету-заяўку, можна азнаёміцца з узорамі ў офісе арганізатара альбо на сайце:**www.muzeumbialoruskie.hajnowka.pl, www.hajnowka.pl** . Конкурс праходзіць пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства і бургамістра горада Гайнаўкі. Арганізатар фотаконкурса — Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы: email: **kontakt@muzeumbialoruskie.pl http://muzeumbialoruskie.hajnowka.pl/**

# Івона закаханая ў кветках

Івона Езёрэк марыла мець вакол сябе кветкі кожнага дня. Яны папраўляюць дрэнны настрой сваім прыемным пахам, радуюць вочы сваёй цудоўнай прыгажосцю. Кветкі — мая радасць, натхненне і задавальненне — кажа яна і радасна ўсміхаецца. Так і хочацца даўжэй пабыць у яе адноўленым прыгожым кветкавым магазіне. Сюды часта прыходзяць маладыя жанчыны. Хто як хто а яны — жанчыны — любяць кветкі. Любяць, калі ім дораць кветкі мужчыны. Не толькі з нагоды дня нараджэння, імянін і Дня жанчын. Кветкі спадарожнічаюць нам у розныя жыццёвыя моманты.

Спадарыня Івона пяты год паспяхова вядзе кветкавы магазін у Нараўцы Гайнаўскага павета, па вуліцы Гайнаўскай. Яе крама адзіная такога роду ў Нараўчанскай гміне. Кветак у яе столькі, што выбіраць ды выбіраць. Тут і белыя, чырвоныя і жоўтыя ружы, і чырвоныя гваздзікі, і маргарыткі, і пахучыя ліліі, фрэзіі і папоткі. Ёсць у магазіне ў продажы жывыя і штучныя кветкі, у кветніцах і без іх. У вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў прадаюцца ятрышнікі (storczyki) і бягоніі. У краме ёсць таксама экзатычныя кветкі. Тут можна купіць гатовыя вянкі і букеты кветак з упрыгажэннем. Івона Езёрэк ахвотна дае парады па доглядзе кветак. Яна — вопытная кветачніца.

З магазінаў у Беластоку і Высокім-Мазавецкім кветачніца прывозіць сваім пакупнікам па заказе таксама кветкі на рабаткі, дэкаратыўныя кусцікі, шматгадовыя расліны ды розных відаў маладыя пладаносныя дрэўцы. **(яц)**

**Віктар ШВЕД**

## Свята Ілы

Тваё Свята, Дзедка,
Было сёння ў Моры.
Не прыбыў, на рэдкасць,
Сапраўды быў хворы.

Не змог памаліцца
У царкве цвінтарнай,
Таму хіба сніцца
Рэжым павучальны.

Дзедка мне і брату
Самым аніколі
На вуліцу з хаты
Выйсці не дазволіў.

*Беласток, 2 жніўня 2019 года.*

## Не сорамна памерці

Жыццё ўцякае і ўцякае,
Штораз болей стратаў.
Паўгода толькі не хапае
На дзевяноста пяты.

Сябра Барыс сказаў папросту:
„Пісьменнікі — паверце,
Калі закончыў дзевяноста
Не сорамна памерці".

*Беласток, 10 жніўня 2019 года.*

# 18.08 — 24.08

**(22.03. — 20.04.)** З 18.08. пачнеш лішне турбавацца ўласным здароўем і нават істэрызаваць. Апаскі звязаныя з сітуацыяй кагосьці блізкага 20-22.08. развяжуцца — справіцца з імі лепш, чым ты спадзяешся. Шчасце ў любові. Добра намацаеш грунт пад нагамі, суцішышся. 19.08. будзеш гатовы да ўступак і негацыяцый. Задзівіш усіх сваёй здольнасцю да кампрамісу. Не рабі нічога, што забаронена.

**(21.04. — 21.05.)** У заробках паможа табе Венера. З 22.08. (да 27.08.) разглядайся — хтосьзнаёмы, ды нясмелы, толькі чакае твайго знака. 20-22.08. будзеш аўтарытэтам, вартым узнагароджання; будзеш настаўнікам. 24.08. можаш нямала выйграць. Пасля 21.08. можаш змяніць імідж, схадзі да цырульніка, касметолага. Не згубі ключоў. Будзь тактычным у кантактах з начальствам. Паляпшэнне ў фінансах.

**(22.05. — 22.06.)** 18-20.08. шчаслівыя выпадкі, лёгкасць наладжвання кантактаў, добры час на падарожжы. 20-22.08. нечаканая ўдалая сустрэча. Але 20-22.08. можаш даведацца аб не вельмі прыемных справах. 22-24.08. можаш згубіцца нават у месцы, якое добра ведаеш. 22-22.08. чакае цябе абучэнне або візіт замежнай дэлегацыі. Твая кантактнасць будзе вельмі каштоўнай. Калі вядзеш бізнес, сустракайся з кліентамі, можаш наладзіць вельмі добрыя кантакты, якія неўзабаве прынясуць прыбыткі; добра правярай дамовы. 22-24.08. знайдзі час толькі для сябе.

**(23.06. — 23.07.)** Вялікая доза пазітыўных уражанняў. Можаш шмат зрабіць і наблізіцца да мэты, але магчымыя дробныя перашкоды. З 21.08. (да 28.08.) мілая любоўная неспадзяванка — той, каго маеш побач як працягнуць руку, можа аказацца тваёй жыццёвай палавінкай. На працы засяродзься на бягучых справах.

**(24.07. — 23.08.)** 20-22.08. атрымаеш пазітыўны адказ з установы або атракцыйную прапанову занятку; трымай пры сабе тэлефон, заглядай у пошту. Фірмачу прыйдзецца заінвеставаць у рэкламу, падабраць большы калектыў. Цяжка будзе вытрымаць на дыеце.

**(24.08. — 23.09.)** Да 20.08. больш адпачывай. 20-22.08. можаш шмат дасягнуць, падпісаць карысны кантракт, здаць экзамен. Але 22-24.08. можаш стаць ахвярай непаразумення. З 21.08. (да 27.08.) гарачыя жарсці. 23-25.08. разведай факт, разбярыся ў плётках, каб не пашкодзіць у сувязях. 20-22.08. пераканаешся, што з некаторымі людзьмі не маеш аб чым гаварыць. Пільнуйся над вадой і не дай сабе нават заліць вуха.

**(24.09. — 23.10.)** Да 20.08. многа імпрэз, не сядзі дома. З 21.08. нявінны флірт можа перамяніцца ў гарачае пачуццё. На кампанейскім гарызонце паявіцца многа асоб. Аптымізм і вера ў свае магчымасці. Шчасце да людзей і інтарэсаў. Патолю знойдзеш у кантакце з дзікай натурай.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш трывалы і паставіш на сваім. З 21.08. замарыш пра пастаянную пару, і як па заказе можа аказацца, што ёсць хтосьці хто схоча даць табе тое, чаго прагнеш. Гучныя імпрэзы суседзяў цяпер могуць даццa табе ў знакі. 22-22.08. шчасце ў справах ва ўстановах і судах. Калі змагаешся за спадчыну, кампенсацыю або пагашэнне даўгу — падавай дакументы ў гэты час. Налягай на трэнінг, які любіш. З 24.08. (да 28.08.) паляпшэнне тваіх адносін на працы і дома.

**(23.11. — 22.12.)** 22-24.08. будзе цябе абагаўляць хтосьці маладзейшы; на пару можа не падыдзе, але на гарачы раман — чаму не. Энтузіязм, але не пераборшчвай — на ўсякі выпадак трымай варыянт Б. 20-22.08. можаш атрымаць цікавую прапанову з замежжа — можаш рызыкнуць. Карысныя лады з людзьмі. Твой высілак на працы будзе адпаведна ацэнены. Забудзеш пра фінансавыя праблемы.

**(23.12. — 20.01.)** Ад 18.08. хопіць табе рашучасці, каб задбаць аб здароўе і пазбыцца кепскіх звычак. У абавязках паможа добрая арганізацыя. З 21.08. (да 27.08.) неспадзявана можа трапіць цябе страла Амура; незалежна ад розніцы ва ўзросце і адлегласці. 22-24.08. не праваронь важнай інфармацыі, тэрміну. З 24.08. настрой паправіць файнае адзенне і прычоску. Ад злосных знаёмых трымайся здалёк 23-25.08. Добры час на адпачынак (хоць не мусіш ляжаць пад грушай).

**(21.01. — 19.02.)** 20-22.08. паправіцца твой рэйтынг у фірме. Будзеш настаўлены на поспех, але не забывайся, што працуеш не адзін — тады ўсё складзецца па тваёй думцы. З 21.08. будзеш лішне патрабавальны да партнёра. Твая цяга да незалежнасці можа быць перашкодай у будаванні шчаслівай сувязі. Прыцягваеш аматараў! Не страціш усяе маёмасці на бязглуздзіцу. Рэгенеруй сілы.

**(20.02. — 21.03.)** Параздумвай, спакойна заглянь у сваё нутро. З 21.08. многа цудоўных хвілін у пары. Выпадковая сустрэча з 24.08. (да 28.08.) можа адмяніць тваё жыццё. Будуць цябе наведваць часта госці. З 22.08. пачнеш атрымліваць доказы прызнання. Старайся менш есці. Рыбы народжаныя ў II палове знака няхай больш варушацца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. пасудзіна для паліва ў самаходзе = 3 _ 2 _ 1 _;
2. Аляксандр, расійскі пісьменнік, аўтар „Паядынка" = 7 _ 8 _ 4 _ 5 _ 6 _ 21 _;
3. брытанская забягалаўка = 13 _ 14 _ 26 _;
4. італьянскі горад з крывой вежай = 34 _ 32 _ 30 _ 27 _;
5. вырастае з птушынай скуры = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _;
6. Кандрат, расійскі паэт-дзекабрыст = 9 _ 10 _ 28 _ 29 _ 22 _ 33 _;
7. бакавы адростак ад ствала дрэва = 19 _ 20 _ 36 _;
8. паміж паловай і чвэрцю = 23 _ 24 _ 25 _ 11 _ 12 _;
9. пара для душы = 31 _ 35 _ 37 _ 38 _. **(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | | | | | | | | |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

Гадзюка, Ева, Кіеў, лыч, Пучыні, рыба, хан, юра, язва.

Рашэнне: **Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

**Амаль год таму была запушчана перабудова адрэзка ваяводскай дарогі № 685 ад Жыўкова да Навасад. У той час неяк не звярнуў я ўвагі на падрабязнасці гэтай інвестыцыі, а вось на нядаўніх днях сам праехаўся ў Гайнаўку і быў прыемна здзіўлены пабачаным новым.**



# Сыход з каралеўскай грэблі

З Анцут у Нарву кладка

Пакуль што аўтобусы з Беластока ў Гайнаўку едуць у Нарву па традыцыйнай трасе, з Заблудава ў Жыўкова па ўжо новай, а далей па старой асфальтоўцы, спыняючыся дзе-нідзе перад святлафорамі, што наводзяць парадак язды на звужаных адрэзках. А ў Храбустоўцы то і зусім з'язджаюць на іншую трасу: Храбустоўка — Кутавая — Ласінка — Трывежа — Катоўка — Дубіны. Гэта абазначае, што адрэзак ад Навасад да Храбустоўкі, які будаваўся ў 1950-х гадах, цяпер пад грунтоўнай мадэрнізацыяй.

Перад Трасцянкай, калі ехаць з боку Беластока, відаць пачаткі будовы аб'язной дарогі па паўночных заклунях вёскі. І за Трасцянкай ёсць ужо контуры будучай новай дарогі, якая вяртаецца на традыцыйны шлях. А вось з павароту перад Анцутамі зноў відаць пачаткі зусім новай трасы: тут яна пойдзе проста ў напрамку Нарвы, а не як дагэтуль, у напрамку Ванева, перад якім і так паварочвала кругаля ў Нарву. І ў самой Нарве прабіваецца ёй насустрач новы шлях, які з'яўляецца прамым прадаўжэннем аб'язной дарогі Нарвы, якою дагэтуль карысталіся нямногія шафёры.

Паехаў я на месца будовы прыглянуцца ёй бліжэй. Злез з аўтобуса ў Анцутах і пайшоў цераз вёску на кладку, што на рацэ Нарве, прыглянуцца, як тая дарога перасячэ раку. Але нічога яшчэ не пабачыў. Пакуль што дарожныя машыны пракладваюць дарогу да будучай эстакады, якая значна спросціць дарогу паміж Беластокам і Гайнаўкай. А калі ўжо будзе даведзена дарога на месца, то, відаць, тады і пачнецца будова моста над поймай Нарвы.

Мяне да гэтай пары дзівіла, што ўвесь транспарт з Нарвы ў напрамку Заблудава валіць спачатку ў адваротным напрамку, у напрамку Адрынок, а перад каталіцкімі могілкамі дае кругаля назад, у напрамку Трасцянкі. Такі транспарт здаваўся мне нелагічным, бо ж не толькі спальвалася на тым кругалі шмат паліва, але і расходаваўся час ды зносіліся самі машыны. І калі так крышку прызадумаўся, то, здаецца, знайшоў вытлумачэнне такога парадоксу...

Адзіная грэбля, якая з Нарвы перасякала пойму аднайменнай ракі, кіравалася, менавіта, у напрамку Адрынок. І па ёй была пракладзена шаша, якая пазней заварочвалася ў супрацьлеглым напрамку. А чаму так сталася? Бо калі трэба было пабудаваць у палове 1950-х гадоў дарогу з новага павятовага цэнтра, якім стала Гайнаўка, у ваяводскі цэнтр у Беластоку, пусцілі яе па старой грэблі, бо новай, мабыць, не было тады магчымасці пабудаваць. А згаданая грэбля, мабыць, была насыпана ў сівую даўніну, калі па нашым наваколлі былі трасіраваны зусім іншыя чым цяпер маршруты. Гэтая грэбля, здаецца мне, была элементам важнай даўняй магістралі, якая злучала Вільню з Кракавам: цераз Гародню, Гарадок, Нарву, Бельск, Мілейчычы, Бярэсце. Гэтая грэбля была элементам тае важнае дарогі, па якой вялікія князі ехалі станавіцца вялікімі каралямі. І ў пазнейшы час яна іграла меншую, але ўсё ж такі важную ролю, злучаючы важныя цэнтры мясцовага значэння. А пасля ўстанаўлення новых граніц у выніку Другой сусветнай вайны дарога дэградавалася, але грэбля асталася; і аставаўся мост для яе...

Ну, а як жа, можна спытаць, адбываўся транспарт з Нарвы ў Трасцянку ды Заблудаў? У мелкаводдзе вельмі проста, па бродзе. І зараз жыхары Анцут карыстаюцца бродам, што з іхняй вёскі вядзе ў Нарву. Праўда, не конікі цягнуць грузы па рачным дне, але трактары; брод акурат побач кладкі для пешаходаў. А калі было больш вады ў Нарве, то тады можна было пакарыстацца і мостам, наддаўшы толькі тры ці чатыры кіламетры.



Неўзабаве ў Беласток пойдзе прамая дарога



Царква ў Нарве

У цяперашні час будаўнічыя магчымасці набралі магутнасці і можна ўжо смела трасіраваць і будаваць новыя маршруты. Ну і з Гайнаўкі, цераз Нарву, пойдзе новая дарога па вызначанай новым геапалітычным парадкам трасе.

* * *

У Нарве пракладваецца не толькі новая шаша, грунтоўна абнаўляецца таксама тамашняя царква. І можна было б толькі радавацца, але ж не ўсё золата, што свеціцца. Мова тут не пра царкоўныя купалы, бо іх акурат у Нарве не залоцяць, толькі крыюць меднай бляхай. А побач заправачнай станцыі мясцовага Пронару паявіліся баявыя машыны; шкада толькі, што яны не апісаны...

Чакаў я аўтобуса на прыпынку ў цэнтры Нарвы. Прамавугольны рынак былога горада захаваўся ў, здаецца мне, сваім гістарычным кшталце. Зараз там парк з пасаджанымі ў пасляваенны час дрэвамі, паміж імі алейкі, дзе-нідзе акуратныя лаўкі. Стэнд з інфармацыяй пра турыстычныя каштоўнасці наваколля шчыльна закрыла кустоўе. Не дабралася яно яшчэ да стэнда пра мясцовую гісторыю: „Мястэчка вырасла ў месцы пераправы цераз раку Нарву важнага купецкага шляху з Вільні і Гародні ў Бельск і Берасце ды далей у Люблін і Кракаў. Спачатку раку перасякалі існуючымі тут брадамі. У XVI стагоддзі пабудаваны быў мост. З ходам часу мясцовасць стала называць портам, з якога адпраўлялі драўніну і іншыя тавары (як смала, паташ, збожжа) у марскія порты і далей за граніцу. Першая згадка пра мясцовасць паходзіць з лістоў караля Ягайлы, пісаных у 1421 годзе. Кульмскае гарадское права Нарва атрымала ў 1514 годзе. Заснавальнікам горада быў Альбрэхт Гаштольд...".

А цяпер пра сам аўтобусны прыпынак; пра яго згадкі на гістарычным стэндзе няма. Але здаецца мне, што ён быў задуманы ў час, калі ўлада турбавалася пра народ, у тым ліку і пра пасажыраў. Ядром прыпынку стаў будыначак пачакальні з дзвюх частак. У першай, з чатырох сцен, мабыць мела быць білетная каса, а ў другой, з трох сцен, мела быць пачакальня, з якой пасажыры маглі бачыць прыезд сваіх аўтобусаў. З ходам часу „касавая" частка не спрацавала і там сталі кароткатэрмінова гасцяваць невялічкія бізнесы. Зараз там „кебаб", у які заходзяць, здаецца, толькі знаёмыя прадпрымальніка; магчыма, што гэта спроба прадпрымальніцкай інкубацыі, якая неўзабаве саступіць месца іншай дзейнасці. Сам будыначак пастаўлены ў вобрубе парку ў тую эпоху, калі было больш турботы пра народ, чым пра гістарычную планіроўку мясцовасці, калі таго народу на прыпынках было шмат. Зараз пасажырскага народу лічаныя адзінкі... Аўтобусы ў напрамку Гайнаўкі спыняюцца менавіта перад тою пачакальняй, на сцяне якой нават прыпынкавая шыльда. А вось аўтобусы ў напрамку Беластока спыняюцца насупраць гэтай пачакальні, дзе няма ніякай прыпынкавай пазнакі. Транспартныя фірмы цяпер змяняюцца, шафёры яшчэ часцей. І могуць быць такія новенькія вадзіцелі, якія праваронць прыпынак, калі пасажыр будзе ў пачакальні, а не на вуліцы. І ў Нарве прыходзіцца ахвотным падарожнічаць у Беласток стаяць шмат часу пад голым сонцам або голым дажджом, каб быць заўважанымі шафёрамі. Можна было б прысесці на паркавай лавачцы, адкуль лепш відаць вуліцу Міцкевіча, што з напрамку Гайнаўкі, але парк абгароджаны ланцугом...

Калі б замест таго будыначка, які быў задуманы ў эпоху будаўніцтва светлай будучыні, на яго месцы стаў звычайны дашок з лавачкай, а аўтобусы з Гайнаўкі заязджалі паміж такую паветку і парк (аўтобусы з Беластока спыняліся б там, дзе і цяпер), напэўна было б шмат выгадней пасажырам; такая нескладаная, але карысная развязка прынята ў Чорнай-Беластоцкай. А калі б хто меў ахвоту ладзіць нейкі шапік, то ёсць і для яго месца — побач, дзе калісь быў будынак пошты, а зараз палетак са зрудзелымі ў спёку зёлкамі. Каюся, што з такою прапановай лезу я не ў свае сані, але, магчыма, планіроўшчыкі нарваўскага цэнтра не ездзяць публічным транспартам і праблемы не заўважаюць...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960